PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 50 (2222) Год XLIII Беласток 13 снежня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Разам у Еўропу

Аляксей Мароз

**Ад 16 да 24 лістапада г.г. у Мендзыгужу, што каля Клодзка, адбыліся інтэграцыйныя сустрэчы моладзі нацыянальных меншасцей, якія пражываюць у Польшчы — „Разам у Еўропе", арганізаваныя Польскім форумам еўрапейскай адукацыі. Ад беларусаў прыехалі вучні Гайнаўскага белліцэя і студэнты беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку.**

— Найбольш было ўкраінцаў, бо прыехалі з чатырох сваіх ліцэяў, але былі сярод іх і студэнты. Былі немцы з Ольштына і Шлёнска, літоўцы з Пуньска, славакі з Аравы, чэхі, румыны, ромы, разам недзе каля шасцідзесяці асоб, — расказвае Ілона Карпюк, намеснік старшыні школьнага самаўрада Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. — Хадзілі мы на лекцыі, семінары, вялі дыскусіі і знаёміліся з культурай паасобных меншасцей. Сустрэчы вялі члены розных фондаў і прадстаўнікі меншасцей. Гаварылі аб магчымасцях дзейнасці меншасных арганізацый, стэрэатыпах, якія сфарміраваны наконт іх. Кожная меншасць выказвалася аб адносінах палякаў да яе. Высветлілася падчас дыскусіі, што найменш талерантныя адносіны палякаў да нацыянальных меншасцей на ўсходзе Польшчы, а чым далей на захад, тым палякі становяцца больш талерантнымі.

— Замежныя студэнты, якія прыязджаюць у Польшчу, лічаць яе краінай талерантнай, але чым даўжэй тут пажывуць, бачаць неталерантнасць, — кажа Ігар Іванюк, вучань белліцэя. — Украінцы і немцы расказвалі, што былі выпадкі, калі непрыхільна звярталіся да іх людзі з вышэйшай адукацыяй.

— Дайшлі мы да вываду, што ў Польшчы фальшывая экуменія, чаго пацвярджэннем мог бы быць прыклад доўгага вяртання будынкаў Супрасльскаму манастыру або перабудова купала на уніяцкай кафедры ў Пярэмышлі, — гаворыць Міхал Корх, ліцэіст з Гайнаўкі. — А ў дыскусіі звярталі ж увагу, што калі будзем уваходзіць у з'яднаную Еўропу, не павінна быць ніякіх падзелаў на горшых і лепшых.

— Бачу, што з беларусамі не так дрэнна, як з іншымі. Славацкія вучні, якія прыехалі з ліцэя ў Араве лічылі сябе стопрацэнтнымі палякамі. А дома карыстаюцца ж дыялектнай польска-славацкай мовай. Галоўнае, што прыцягнула іх у славацкі ліцэй, гэта магчымасць вучобы ў вышэйшых установах Славакіі без ніякіх экзаменаў, са стыпендыямі і ўсімі прывілеямі. Іх апекуны таксама не лічылі сябе славакамі, а аравянамі, — расказвае Ігар Іванюк. — Некаторыя ўкраінцы стараліся пераканаць нас, беларусаў, ва ўкраінскасці Падляшша. Была нават сярод іх адна сту-

[працяг ☞ 3]



*Вучні з Ягушова пазнаёмілі гайнаўскіх ліцэістаў з хрысцінным абрадам. Пра сустрэчу чытайце на 8 старонцы.* Фота Марка ТАПАЛЕЎСКАГА

## Беларускія апазіцыянеры ў Польшчы

Аляксандр Вярбіцкі

У чацвер, 26 лістапада, у варшаўскім гатэлі „Forum" адбылася сустрэча з прадстаўнікамі дэмакратычнай апазіцыі Рэспублікі Беларусь. Яны выказалі сваё меркаванні наконт палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы.

Павел Данейка, лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі з Мінска гаварыў аб эканамічных праблемах, а дакладней — аб эканамічным крызісе ў Рэспубліцы. Назваў ён сённяшні крызіс *следствием успехов*. Улады яшчэ пару гадоў таму спадзяваліся, што Беларусь стане эканамічным „тыграм" у выніку прэзідэнцкага ўказа, які загадваў дзяржаўным прадпрыемствам рост прадукцыі. У выніку гэтага наступіў рост таварных запасаў і ў яго выніку продаж па цэнах, якія не пакрывалі коштаў прадукцыі. Больш за 50% беларускіх прадпрыемстваў стала такім чынам даваць страты. Дзеля росту попыту ўлады сталі напампоўваць грошы, што ў 1997 годзе прывяло да дэфіцыту і інфляцыі. У краіне існавала многа адміністрацыйных валютных курсаў, якія заблыталі сітуацыю, аднак паводле цэнаў на маскоўскай біржы ў Беларусі замест планаванага эканамічнага росту ў 9% наступіла падзенне валавога прадукту на 10%. Сёлета сітуацыя ўскладнілася яшчэ больш у сувязі з крызісам расійскай эканомікі. Наступіла закрыццё расійскага рынку для беларускіх тавараў у выніку падзення попыту, выкліканага збядненнем расійскага грамадства, таксама на 12% упаў экспарт на захад. У Беларусі прапала валюта. Салігорскі калійны камбінат, які дастаўляў найбольш валюты, апынуўся ў клопатах з прычыны зносу абсталявання. Таксама падзенне экспарту ў Расію супала з 200% дэвальвацыяй тамашняга рубля, а пасля ўспыху крызісу ў Расіі — з падзеннем яго вартасці на чарговых 300%. І гэта таксама скарацяла прыток валюты, які адбываўся і пры дапамозе канверсіі выручанага за тавары расійскага рубля. У выніку ў Беларусі наступіў рост інфляцыі і дэфіцыту, у крамах паказаліся пустыя полкі, а рэальная зарплата ўпала з 90 амерыканскіх долараў на 30. Улады змагаюцца з гэтым крызісам адміністрацыйнымі метадамі: кантролем цэн, картачнаю сістэмай, націскам на прыватны сектар, а гэта выклікае грамадскае напружанне.

Вінцук Вячорка, лідэр Беларускага народнага фронту сказаў, што пасля адказу ад імпічменту два гады таму, які быў вынікам тадышняга дэсанту ў Мінск Чарнамырдзіна, Селязнёва і Строева, дэмакратычна настроеная частка грамадства апынулася ў стане фрустрацыі, з якой паволі пачынае выходзіць. Лукашэнка вельмі выгадны Расіі, бо ён, напрыклад, прадае расійскае ўзбраенне туды, куды самой Расіі рабіць гэта нявыгадна. Пасля эканамічнага правалу ў Расіі, залежная ад яе Беларусь стала падаць яшчэ хутчэй і сёння ў асяроддзі ўлады пахіснулася ўпэўненасць у стабільнасці рэжыму. Мяняецца грамадскі настрой, успыхваюць забастоўкі ў Мінску і іншых гара-

[працяг ☞ 3]

## Чарговая дапамога

У суботу, 28 лістапада г.г., дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Яўген Сачко сустрэўся з прадпрымальнікам з Беластока, які перадаў яму 5 тыс. зл. на дапамогу школе.

[болей ☞ 3]

## Гуманіст і палітык

Ад 1923 г. Тарашкевіч супрацоўнічаў з камуністамі, а ў 1925 г. стаў членам КПЗБ. У чэрвені 1925 г. Тарашкевіч разам з Рак-Міхайлоўскім, Мятлой і Валошыным выступілі з Беларускага пасольскага клуба і заснавалі Клуб Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Быў гэта пачатак партыі, якая год пазней стала найбольшай арганізацыяй у Польшчы. За Тарашкевічам пайшла амаль уся беларуская вёска.

[жыццяпіс ☞ 4]

## Вуліца Добрай Надзеі

Танкі не прыязджаюць. Чацвёрты дзень працягваецца вайна, выпаўзае з тэлевізараў, трывожна бурчыць вуснамі радыёпрыёмнікаў, а на нашай вуліцы цішыня і спакой. (...) Тым часам дзеці, сяк-так накормленыя, рассыпаюцца ўздоўж вуліцы, цікуючы, адкуль прыедуць танкі. Ці ад Хітрай, ці ад Кляшчэляў? Вялікія гарады запаўняюцца танкамі, зелянеюць ад мундзіраў вуліцы, а тут хоць ты плач: цішыня, спакой, задрыпонія.

[апавяданне ☞ 5]

## Радаваць іншых

Выставы ўжо няма, але цікавасць да яе не прапала. Прыязджаюць да мяне людзі паглядзець матэрыялы дома. Адзін піша сачыненне, іншы — дыпломную працу. Мне — непрафесійнаму мастаку — радуецца сэрца. Мастак тады адкрывае дарогу да шчасця, калі адчувае неабходнасць тварыць і тварыць ды даваць радасць іншым.

[прызнанне ☞ 8]

## Выхаваўчыя сумненні

Повадам для сумненняў наконт маіх выхаваўчых здольнасцяў паслужыла мне празаічная прычына, а менавіта свае ўласныя дзеці. Іх у мяне толькі двое. Выхоўваў іх ад дня іх нараджэння і кругласутачна, а добрым выхаваннем іх пахваліцца не мог.

[успамін ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Лукашэнка спадзяецца на пост

Прэзідэнт Беларусі лічыць, што бліжэйшы месяц людзі павінны пасціць. Таму не будзе праблемы забеспячэння насельніцтва краіны мяснымі прадуктамі да праваслаўных Каляд.

Выступаючы на чарговым пасяджэнні свайго крызіснага штаба 27 лістапада, Аляксандр Лукашэнка, пасля пагрозлівых абяцанак звольніць усіх з пасадаў, пачаў патрабаваць ад сваіх падначаленых забеспячэння насельніцтва сельгаспрадукцыяй і нечакана перайшоў да рэлігійнай тэмы.

— Благо, что пост начинается, — злобна сказаў прэзідэнт. — Вот посмотрим! У нас все верующие! Может мяса будет некуда девать? В этот Святой пост. В этот Великий пост. Посмотрим, как кто свечку в церкви держит, как кто молится, и как они поститъ будут.

Пасля Аляксандр Лукашэнка, напэўна, адчуў, што прагаварыўся і сказаў, што, на яго думку, сапраўды падчас посту мяса не будзе куды падзець і загадаў забяспечыць насельніцтва пlivснымі прадуктамі і рыбай. Але ў гэтым распараджэнні не было патрэбы.

Рыбы на паліцах беларускіх крамаў пакуль хапае. Лукашэнка, імкнучыся хутчэй аб'яднацца з Масквой, даўно ўвёў на Беларусі расійскія мытныя пошліны, якія абараняюць інтарэсы расійскіх рыбакоў. У выніку кілаграм неачышчанага селядца каштуе 308 тысяч рублёў. Свежамарожаная рыба прадаецца прыкладна па такой жа цане. Улічваючы, што сярэдні заробак па Беларусі складае пяць мільёнаў рублёў, ласых на рыбу знаходзіцца не многа. Тая ж сітуацыя з раслінным алеем. Свайго ў Беларусі няма, а імпартны каштуе 380 тысяч літр.

Вось за чым перад святамі беларусы душацца ў чэргах, дык гэта за шампанскім айчыннай вытворчасці. Расійскія пошліны распаўсюджваюцца і на вінаградныя віны. Каўказскія да Беларусі не даязджаюць, а віно вытворчасці традыцыйных пастаўшчыкоў Венгрыі, Балгарыі і Малдавіі каштуе ад 800 тысяч да 1 500 000 рублёў за бутэльку. Беларускае шампанскае больш таннае амаль у тры разы.

Ведаючы, што перад Новым годам пачнецца ажыятаж вакол гэтага шыпучага напою, улады забаранілі прадаваць яго з верасня па 10 снежня. Увесь гэты час накопліваліся запасы. Каб ніхто не прадаў віна раней вызначанага тэрміну, міліцыянеры з аддзела барацьбы з эканамічнай злачыннасцю амаль штодня правяралі наяўнасць шампанскага на складах крамаў і гандлёвых базаў.

**(зк)**

## СНІД — рэальная пагроза

Як і ва ўсім свеце, 1 снежня ў Беларусі адзначаўся Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу (AIDS). У гэтым годзе ён праходзіў пад дэвізам „Крыніца перамен: моладзь у Сусветнай кампаніі супраць СНІДу". Найбольш арыгінальна адзначылі гэты дзень сябры Гродзенскай арганізацыі Маладая Грамада. Яны наладзілі ў Гродне пікет, на якім бясплатна раздавалі ўсім жадаючым прэзервативы.

Але ў Беларусі СНІД у асноўным распаўсюджваецца не шляхам палавых кантактаў, а праз шпрыц з наркотыкам.

Яшчэ два гады таму пра „чуму XX стагоддзя" на Беларусі гаварылі мала. Але нечакана ў Светлагорску ўспыхнула эпідэмія гэтай хваробы. У хуткім часе было выяўлена больш тысячы носьбітаў СНІДу сярод маладых наркаманаў.

Па даных Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу, на сярэдзіну лістапада ў Беларусі быў афіцыйна зарэгістраваны 2291 інфіцыраваны страшным вірусам. У параўнанні з аналагічным леташнім перыядам колькасць тых, што заразіліся, у рэспубліцы павялічылася на 563 чалавекі (напачатку лістапада 1997 года колькасць носьбітаў віруса складала 1728 чалавек). Найбольш інфіцыраваных у Гомельскай вобласці — 1796. За ёю ідуць: Менск (234 чалавекі), Брэсцкая вобласць (75 чалавек), Магілёўская (70), Менская (37), Віцебская (34 выпадкі). Найменшая колькасць заразіўшыхся на Гродзеншчыне — 11 чалавек. І большасць з іх прыехалі з іншых рэгіёнаў Беларусі ці з-за мяжы.

**(зк)**

## Слуцкае паўстанне натхняе патрыётаў і непакоіць міліцыю

29 лістапада прадстаўнікі Беларускага народнага фронту адзначылі 78-ыя ўгодкі Слуцкага паўстання паездкай па мясцінах, звязаных з галоўнымі падзеямі збройнага чыну 1920 года. У мерапрыемстве ўдзельнічала каля 150 чалавек з Менска, Слуцка і Пухавіцкага раёна.

У Слуцку, разгарнуўшы бел-чырвона-белыя сцягі, беларускія патрыёты прайшлі па цэнтральнай вуліцы горада да мясцовага музея, у якім 78 гадоў таму адбыўся з'езд Случчыны. Сёлета да будынка ўсклалі кветкі і ўшанавалі памяць паўстанцаў хвілінай маўчання. Каля мястэчка Вызна, якая зараз носіць назву Чырвоная Слабада, і дзе ў 1920 годзе адбываліся найбольш жорсткія баі случчакоў з бальшавікамі прайшоў мітынг.

Некалькі гадоў таму ў гонар загінуўшых паўстанцаў у Вызне быў усталяваны крыж, але неўзабаве ён быў знішчаны ўладамі. Памятныя крыжы яшчэ стаяць у Семежаве і Грозаве. Удзельнікі паездкі ўсклалі да іх кветкі.

Адзначэнне ўгодкаў Слуцкага паўстання занепакоіла міліцыю. Нехта з начальства палічыў праход паўтары сотні людзей па слуцкай вуліцы несанкцыянаваным шэсцем. 1 снежня ахоўнікі правапарадку спрабавалі знайсці ў менскай штаб-кватэры БНФ арганізатараў паездкі ў Слуцк.

**(зк)**

## Еўрапейскі Саюз даў мільён экю на вывучэнне экалогіі Панямоння

17 лістапада ў Гарадзенскім аблвыканкаме адбылася нарада, прысвечаная пачатку рэалізацыі праекта „Рэгіянальнае развіццё і ахова прыроды ў еўрарэгіёне «Нёман»". Праект фінансуецца ў рамках праграмы TACIS (Тэхнічнае садзейнічанне Садружнасці Незалежных Дзяржаў) Еўрапейскага Саюза па транспамежнаму супрацоўніцтву. У Гродна прыехала шмат замежных экспертаў, у тым ліку дырэктар праекта Дзюк Гай.

Дамова пра стварэнне еўрарэгіёна „Нёман" прадстаўнікамі кіраўніцтва Сувальскага ваяводства, памежных з Беларуссю раёнаў Літвы і Гродзенскай вобласці была падпісана яшчэ 6 чэрвеня 1997 года. Планавалася, што неўзабаве наступіць значнае палягчэнне для сумеснага беларуска-польска-літоўскага бізнесу, асабліва дробнага і сярэдняга, пашырэнне колькасці памежных пераходаў і спрошчаная сістэма пропуску праз межы жыхароў еўрарэгіёна, рэалізацыя сумесных эканамічных, культурных і экалагічных праектаў і г.д.

Але пакуль жыхары Прынямоння ніякіх прыкметаў існавання еўрарэгіёна не адчуваюць. Наадварот. Беларуская мяжа з Польшчай і Літвой робіцца яшчэ больш закрытай. За некалькі дзесяткаў кіламетраў ад Гродна пачынаецца памежная зона. Знаходзіцца там можна толькі пры наяўнасці адмысловага пропуску. Нават у часы Савецкага Саюза памежная зона не займала такую вялікую плошчу як зараз. Пашырэнне эканамічных сувязяў немагчыма. У Беларусі ідзе непрыхаваная вайна дзяржавы з прадпрымальнікамі. Ліквідуюцца сотні фірмаў, а рэгістрацыя новых спынена. Шэсць тысячаў чалавек, якіх абвінавацілі ў эканамічных злачынствах, сядзяць у турмах.

Таму паведамленне ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама пра прэс-канферэнцыю з нагоды пачатку рэалізацыі міжнароднага праекта выклікала вялікі інтэрэс у мясцовых журналістаў. Тым больш, што аблвыканкамаўскі прэс-рэліз пачынаўся словамі: „Сёння адкрываецца новая старонка ў гісторыі еўрапейскага супрацоўніцтва".

Але журналістаў, якія вечарам 17 лістапада шчыльна запоўнілі залу, дзе праходзіла прэс-канферэнцыя, чакала расчараванне.

Праект „Рэгіянальнае развіццё і ахова прыроды ў еўрарэгіёне „Нёман" не прадугледжвае інвестыцый у канкрэтныя мерапрыемствы па ахове прыроды ці ахове помнікаў гісторыі і культуры.

Прадстаўнік ангельскай фірмы ERM, якая будзе выконваць асноўную ролю ў ажыццяўленні праекта, і адначасова яго выканаўчы дырэктар Дзюк Гай расказаў пра накірункі дзейнасці па рэалізацыі запланаваных работ.

30 лістапада ў Гродне адкрыецца офіс міжнароднага праекта „Рэгіянальнае развіццё і ахова прыроды ў еўрарэгіёне «Нёман»", на рэалізацыю якога TACIS выдаткаваў адзін мільён экю. Прыкладна 15% грошай пойдзе на забеспячэнне офіса абсталяваннем, камп'ютарнай тэхнікай, на аўтатранспарт. Астатнія сродкі будуць выкарыстаны для правядзення семінараў, на якіх будуць вучыцца спецыялісты-экологі Гродзеншчыны і аплату замежных выкладчыкаў. Замежныя эксперты будуць вывучаць экалогію Прынямоння, помнікі гісторыі і культуры. Праводзіць кансультацыі па ахове прыроды і развіццю экалагічнага турызму. Таксама даваць кампетэнтную інфармацыю замежным фірмам, якія захочуць у будучым інвеставаць індустрыю адпачынку на Гарадзеншчыне. Праца над праектам працягнецца 22 месяцы. Удзел у ёй разам з ERM прымуць фірмы „The Tourism Company" з Англіі і „Lahmeyer International" з Нямеччыны.

Намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама па эканоміцы Міхаіл Бяляеў выказаў спадзяванні, што рэалізацыя гэтага праекта стане падмуркам для наступных, што прадугледжана TACIS ды іншымі фондамі для развіцця еўрарэгіёна.

**Зміцер Кісель**

## Праваслаўны крыж з Польшчы застаўся ў Лідзе

21 лістапада ў Дзень святкавання памяці Сабора Архістраціга Міхаіла ды іншых Нябесных Сіл бесцялесных у Лідзе быў асвечаны Свята-Архістраціга-Міхайлаўскі кафедральны сабор.

Гісторыя гэтага храма падобная на лёс шмат якіх святыняў Заходняй Беларусі. Спачатку ён быў некалькі дзесяткаў гадоў касцёлам айцоў піяраў. У XIX стагодзі будынак быў пашкоджаны і не рамантаваўся. Сто сорак пяць гадоў таму перададзены праваслаўным, якія адбудавалі храм. У час II Рэчы Паспалітай царква зноў стала касцёлам. Пасля вайны бальшавікі зрабілі ў святыні планетарый і музей. Некалькі гадоў таму будынак быў перададзены праваслаўнай абшчыне. У хуткім часе з дапамогай прыхаджан і лідскіх прадпрыемстваў „Лакафарба", „Лідабудматэрыял", будаўнічага трэста № 19 храм быў адноўлены.

Ва ўрачыстым багаслужэнні з нагоды асвячэння царквы прынялі ўдзел мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усёй Беларусі Філарэт, епіскап Навагрудскі і Лідскі Гурый і епіскап Гайнаўскі Міран. Апошні перадаў епіскапу Гурыю ў якасці дару крыж, асвечаны ў Іерусаліме ля Магілы Гасподняй.

**(зк)**

## Вікінгі кормяць галодных беларусаў

Улічваючы цяжкае эканамічнае становішча на Беларусі, міжнародная таварыства Чырвонага Крыжа і Паўмесяца распрацавала гуманітарную праграму „Надзвычайны заклік". Згодна з ёй са снежня гэтага года па чэрвень наступнага на Беларусь будуць пастаўляцца адмысловыя харчовыя наборы, сродкі гігіены, адзенне. Усё гэта будзе распаўсюджвацца сярод малазабяспечаных сем'яў і бяздомных. Для іх таксама арганізоўваюцца бясплатныя гарачыя абеды ў грамадскіх сталоўках, а для найбольш занядбаных бяздомных — санітарная апрацоўка.

Размеркаваннем гуманітарнай дапамогі займаецца рэспубліканскі камітэт Чырвонага Крыжа Беларусі. Фінансаванне праграмы „Надзвычайны заклік" узяў на сябе Чырвоны Крыж Даніі. **(зк)**

# Беларускія апазіцыянеры ў Польшчы

[1 ☞ працяг]
дах і Лукашэнка нават заявіў, што адыдзе, калі грамадства яго пра гэта папросіць. Імкненне Лукашэнкі сыграць крамлёўскую ролю змянілася, бо галоўныя прэтэндэнты туды, Лужкоў і Лебедзь, песцяць той самы электарат што і ён.

Алесь Бяляцкі, лідэр Праваабарончага цэнтра „Вясна '96" расказаў напачатак пра канфіскацыйныя акцыі уладаў, а таксама пра рэпрэсіі супраць дзеячаў апазіцыі. Былі названы прозвішчы Вінцука Вячоркі, Станіслава Багданкевіча, Уладзіміра Плешчанкі, Анатоля Фёдарава, Аляксея Шыдлоўскага, Паўла Севярынца і Вадзіма Канапацкага. Сёлета па палітычных прычынах рэпрэсіравана ўжо каля пяціста чалавек. У дзяржаве няма незалежнай адвакатуры; адвакаты, што не хацелі падпарадкавацца такой сітуацыі пазбаўлены адвакацкіх ліцэнзій. Суддзі вымушаны жыць у дзяржаўных кватэрах... Штогоду выносіцца каля пяцідзесяці смяротных прыгавораў, якія вельмі хутка выконваюцца.

Павел Жук, незалежны выдавец, сказаў, што кожны дзень выходзіць тры з паловаю мільёна экземпляраў дзяржаўных газет і толькі сто тысяч незалежных. Электронныя сродкі інфармацыі знаходзяцца пад стопрацэнтным кантролем дзяржавы. Незалежным выдавецтвам ствараюцца перашкоды з трох напрамкаў:

— тэхналагічнага: няма прыватнай друкарні, якая магла б друкаваць газеты. Усе друкарні дзяржаўныя, таксама дзяржаўнае распаўсюджванне; прыватныя фірмы распаўсюджваюць не больш двух тысяч экземпляраў;

— юрыдычнага: дзяржаўным чыноўнікам забаронена даваць інфармацыю ў незалежныя выданні;

— фінансавага: даражэйшая, чым для дзяржаўных выдавецтваў папера, друкарскія паслугі і кальпартаж. Дзяржаўныя газеты атрымоўваюць вялікую датацыю і збяднелы народ можа яшчэ іх купляць, а на прыватныя газеты папросту не мае грошай і гэта абмяжоўвае іх тыраж. Калі б была магчымасць выпуску хаця б мільёна незалежных газет у дзень, тады была б іншая сітуацыя. Праблемаю з'яўляецца таксама доступ на тэлебачанне і радыё.

Віктар Івашкевіч, лідэр Кангрэса свабодных прафсаюзаў сказаў, што да 1996 года свабодныя прафсаюзы выйгрывалі перад судамі каля 80% спраў у абароне працоўных. З 1995 года, калі падаўлены быў страйк у мінскім метро, гэты працэнт упаў да дванцаці. У апошнія тры гады наглядаўся крызіс свабодных прафсаюзаў. Сёлета летам каля 20% насельніцтва не прымаюць дыктатуру, а 25% любяць Лукашэнку, нават калі б прыйшлося ім памiраць ад голаду. Палова насельніцтва ў стане псіхалагічнага шоку ад эканамічнага краху. Цяпер нават афіцыйныя, з часоў СССР, прафсаюзы пераходзяць у апазіцыю і яны аб'явілі пра свой удзел у папераджальным страйку 9 снежня. Там дзе няма прафсаюзаў, успыхваюць стыхійныя страйкі, бо жыццё людзей падышло да мяжы выжывання. Усе партыі аб'яўляюць падтрымку прафсаюзам, што дае шанс кансалідацыі палітычнай апазіцыі.

Уладзімір Роўда, лідэр Форуму недзяржаўных арганізацый сказаў, што эканамічны крызіс выклікаў фрустрацыю грамадства. Матыў палітычнай ігры Лукашэнкі ў Расіі пацярпеў паразу, аднак у краіне няма палітычнай альтэрнатывы прэзідэнту. Галоўнаю ўмовай для стварэння гэтай альтэрнатывы з'яўляецца адзінства апазіцыі, якая выступае за незалежнасць, дэмакратыю і еўрапейскасць. Трэба разлічваць на пазаўрадавы сектар, аднак, хаця ў Беларусі больш за 2000 пазаўрадавых арганізацый, большасць з іх фіктыўныя і існуюць толькі на паперы; частка з іх створана уладамі, каб зманіць грамадства і дэзарганізаваць дэмакратычныя памкненні. У лютым мінулага года ўзнікла Асамблея беларускіх пазаўрадавых арганізацый; тады да яе прыступіла каля 250 суб'ектаў, сёння ўжо 520 арганізацый з усіх рэгіёнаў краіны. Часта ставіцца закід, што дзейнасць пазаўрадавых арганізацый у Беларусі іншая, чым у замежжы. Уплываюць на гэта аб'ектыўныя фактары, звязаныя з дзейнасцю ўладаў і з тым, што сфера дазволенасці — вельмі вузкая: няма парламента, няма выбараў, няма магчымасці свабоднага выказвання на палітычныя тэмы. Асамблея адной з першых кансалідавала апазіцыю, асабліва на мясцовым узроўні і адной з мэтаў яе дзейнасці з'яўляецца уплыў на грамадскую думку беларускага грамадства, асабліва ў глыбінцы, бо там бастыён Лукашэнкі.

Сяргей Мальчык, лідэр Беларускага народнага фронту з Гродзеншчыны адзначыў, што Беларусь, гэта не толькі Мінск, але гэта і жыхары малых гарадоў і вёсак і іх праблемы — галоўныя для Беларусі. Палітызацыя грамадства, а ў першую чаргу прафсаюзаў і пазаўрадавых арганізацый, якія не могуць займацца толькі сваёй дзейнасцю, пры цяперашнім рэжыме непазбежная, бо нават святкаванне нацыянальнага свята — гэта палітыка. І так сходзяцца мэты дзейнасці партый і грамадскіх арганізацый. Спрыяе гэтаму і страх — галоўная зброя рэжыму. У мясцовасцях, дзе адно-два прадпрыемствы, людзі лёгка трацяць працу. Ёсць такія раёны, дзе без ведама вертыкальшчыка нельга прыняць на працу нават прыбіральшчыцу. Спрыяе палітызацыі грамадскіх арганізацый і інфармацыйны голад: дастаўка незалежных выданняў у глыбінку адсутнічае. На пошце прымаецца падпіска толькі на адны „Навіны", а іншыя незалежныя выданні можна атрымаць толькі ў буйных гарадах; таму і непазбежнасць яднання ў глыбінцы. На Гродзеншчыне два гады таму завязалася Гродзенская ініцыятыва, якая аб'ядноўвае 32 арганізацыі. Яе мэты — абмен інфармацыяй, навучанне лідэраў і каардынацыя дзеянняў. Ладзяцца сувязі з іншымі рэгіянальнымі аб'яднаннямі і абласнымі структурамі. На захадзе Беларусі, у Гродзенскай і Брэцкай абласцях, лепш успрымаюцца дэмакратычныя каштоўнасці; вынікае гэта з цяснейшых кантактаў з Польшчаю і іншымі дзяржавамі. Польскія радыёвяшчанне і тэлебачанне даходзяць да 50 км углыб Беларусі і прыносяць важныя інфармацыі; большасць насельніцтва прымае гэтыя каналы.

Юры Хадыка, лідэр Беларускага народнага фронту сказаў, што ў свядомасці большасці беларусаў адсутнічае свядомасць альтэрнатывы рэжыму. Галоўным прынцыпам апазіцыйнай дзейнасці стала яднанне ў дзеянні пасля дзяржаўнага перавароту 1996 года. З 1997 года дзейнічае Кансультацыйны савет дэмакратычных партый і Нацыянальны выканаўчы камітэт з кампетэнтных людзей, што прыдае аўтарытэт і дае магчымасць узяць адказнасць за дзяржаву пасля Лукашэнкі. У 1999 годзе павінны адбыцца прэзідэнцкія выбары, і калі іх не будзе, тады Лукашэнка перастане прызнавацца легітымным. Недахоп фінансаў прымусіць Лукашэнку да змены пазіцыі, каб атрымаць грошы. Можа ён імітаваць выбары, аднак баіцца гэтага, бо яго аўтарытэт — уяўны. Таму восенню паўстала ідэя арганізаваць мясцовыя выбары, аднак іх прызнанне, гэта прызнанне законнасці перавароту 1996 года. І як ні дзіўна, АБСЕ, якую ўзначальвае польскі міністр замежных спраў Браніслаў Герэмэк, траціць многа сродкаў на назіральнікаў на тыя выбары! А яшчэ горш, калі Лукашэнка аб'явіць прэзідэнцкія выбары, але на ўласных умовах. Апазіцыя ж будзе адстойваць: свабодныя сродкі масавай інфармацыі (у іх ліку і электронныя), удзел апазіцыі ў выбарчых камісіях, адмену абмежавання на агітацыю, спыненне палітрэпрэсій і недапушчэнне да паралельных кампаній тыпу рэферэндумаў. Апазіцыя будзе схіляць місію Віка, каб правяла маніторынг умоў для свабодных выбараў.

Пры канцы сустрэчы адзін з прысутных паставіў беларускім апазіцыйным лідэрам тры пытанні:

— сёлетняя сітуацыя ў Беларусі нагадвае сітуацыю ў Польшчы дзесяць гадоў таму: улада не спраўляецца з эканамічнымі праблемамі, а апазіцыя не ў сілах мабілізаваць грамадства супраць улады; ці ў Беларусі сёлета магчымы „круглы стол" з удзелам, так як калісь у Польшчы, улад і апазіцыі?

— ці ёсць медыятар, унутраны або вонкавы, такі якім быў у Польшчы Касцёл?

— ці ў Беларусі ёсць эліты, якія ў змозе справіцца з савецкаю спадчынай?

Адказ на гэтыя пытанні быў такі, што сітуацыя ў Беларусі адрозніваецца ад тае, якая была ў Польшчы, большым умяшаннем Расіі і адсутнасцю тае глебы яднання, якою ў Польшчы быў Касцёл, аднак яго ролю ў Беларусі маглі б адыгрываць дзяржавы Еўрапейскага Саюза разам з Расіяй. А за адзін стол з Лукашэнкам сесці цяжка, бо ён — „своеасаблівая асоба", але калі будуць рэальныя падставы... Яднанне эліт — гэта падгатоўка падмены старым кадрам. На сёння ў Беларусі склалася група, якая ў стане ўзяць на сябе адказнасць за краіну; праблема толькі ў рэгіёнах, бо там яшчэ з гэтым цяжка.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Разам у Еўропу

[1 ☞ працяг]
дэнтка з Гайнаўкі. Аднак большасці украінцаў гэтая тэма не цікавіла.

— Цікавым было знаёмства з культурай паасобных меншасцей у Польшчы, — гаворыць Ілона Карпюк. — Мы расказвалі пра гісторыю беларусаў Беласточчыны, культурныя мерапрыемствы арганізаваныя ў нас, пра выдавецкую дзейнасць, пісьменнікаў, часопісы. Расказалі пра нашу школу, паказалі фільмы, чыталі вершы „белавежцаў". Мелі таксама свае друкаваныя матэрыялы. Кася Дробат і Пётр Лазовік расказалі пра „Ювеналіі", што адбываюцца ў Беластоку. Кожная група рыхтавала сваю нацыянальную страву. Украінцы зрабілі, напрыклад, пірагі з мясам, немцы — бульбяныя аладкі з мясам. Мы хацелі падрыхтаваць зацірку з малаком, але не хапіла часу.

— Падчас сустрэчы рыхтаваліся мы таксама да будучай палітычнай дзейнасці, ствaралі партыі, урад. Хадзілі на экскурсіі і арганізавалі гульні на адкрытым паветры, — кажа на заканчэнне Міхал Корх. — Чарговыя такія спатканні запланаваны на вясну і думаю, што варта было б ізноў прыняць у іх удзел, бо добра пазнаёміцца з жыццём і культурай іншых нацыянальнасцей. А засталіся ж знаёмствы і цікавыя ўспаміны.

**Аляксей Мароз**

# Чарговая дапамога

У суботу, 28 лістапада г.г., дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Яўген Сачко сустрэўся з прадпрымальнікам з Беластока, які перадаў яму 5 тыс. зл. на дапамогу школе.

— Бізнесмен беларускага паходжання, які таксама памагае школам у Беларусі, вырашыў падтрымаць наш ліцэй, калі па радыё і тэлебачанні даведаўся пра нашы даўгі і грашовыя ахвяраванні Ежы Гедройца і Данеля Альбрыхскага, — кажа дырэктар Яўген Сачко. — Цяпер хопіць ужо нам сродкаў, каб пагасіць задоўжанасць за электраэнергію, а тыя грошы, якія застануцца, пойдуць на бягучыя справы. У снежні таксама не хопіць нам бюджэтных сродкаў і тымі грашамі будзем плаціць за электраэнергію і вугаль.

**(ам-з)**

# Засталося няшмат часу

Стаім напярэдадні важных пераўтварэнняў — з пачаткам наступнага года ўводзяцца дзве рэформы: лекавая і сацыяльнага забеспячэння.

Зараз у парламенце вядуцца спрэчкі наконт тэрмінаў іх увядзення. На думку прэзідэнта РП з лекавай рэформай трэба пачакаць паўгода, каб адпаведна паінфармаваць аб гэтым грамадства.

Чыноўнікі адказных ведамстваў у сваю чаргу даказваюць, што няма падставы для сумненняў, усё акуратна падрыхтавана і студзень 1999 года — самы адпаведны тэрмін. Адтэрмінаванне ўвядзення рэформы да ліпеня — гэта затрата часу!

Тое, што мала ведаем пра лекавую рэформу, гэта праўда. Пераканаўся я асабіста ў лістападзе г.г., наведаўшы Беластоцкую чыгуначную амбулаторыю. Калі я паставіў пытанне свайму лекару, дзе буду лячыцца пасля новага года, ён, паціскаючы плячыма, адказаў: „Я сам нічога не ведаю. Прыязджаў каардынатар з Варшавы, ды сам толкам не мог растлумачыць. Адно вядома, што чыгуначнікі будуць карыстацца касай хворых для форменных службаў (вайскоўцы, паліцыя і г.п.). Прыпісваюцца да гэтай касы і пенсіянеры, якія дагэтуль карыстаюцца чыгуначнымі правамі. Тыя, што пяройдуць на пенсію пасля новага года, будуць карыстацца правамі ЗУСу".

Атрыманая інфармацыя не задавальняе мяне. Таму з вялікай увагай сачыў я за тэлевізійнай дэбатай у справе лекавай рэформы, якая пацвердзіла, што грамадства нямнога ведае яе і таму з яе ўвядзеннем не трэба спяшацца.

**Уладзімір Сідарук**

# Гуманіст і палітык



*Браніслаў Тарашкевіч з сынам Радаславам (1930 г.).*

У канцы лістапада або на пачатку снежня 1938 г. бальшавікамі быў растраляны выдатны беларускі гуманіст, грамадскі дзеяч, палітык Браніслаў Тарашкевіч. Дакладная дата яго смерці невядомая. *Энцыклапедыя БССР* інфармуе, што яго жыццё закончылася ў верасні 1941 г., быццам бы загінуў на пачатку нямецкай акупацыі. Аднак ужо тры гады не было яго ў жывых. Аляксандра Бергман, аўтарка кніжкі *Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu* (Warszawa 1977) піша, што загінуў ён 29 лістапада 1938 г. Таго дня сталінскі суд выдаў Тарашкевічу смяротны прыгавор. На практыцы энкавэдзісты расстрэльвалі абвінавачаных зараз пасля судовага рашэння. Няма аднак поўнай упэўненасці ці менавіта так адбылося з Тарашкевічам.

Браніслаў Тарашкевіч нарадзіўся 20 студзеня 1892 г. у засценку Мацюлішкі, што на Віленшчыне. З беларускім рухам Тарашкевіч сутыкнуўся ў 1908 г. у Вільні, будучы гімназістам. У рэдакцыі „Нашай нівы" пазнаёміўся ён з тагачаснай беларускай інтэлектуальнай і палітычнай элітай. Было гэта асяроддзе Беларускай сацыялістычнай грамады. Адсюль, сацыялісты моцна паўплывалі на светапогляд Браніслава Тарашкевіча, калі дэманстратыўна парваў сувязі з каталіцызмам. Яго веравызнаннем штораз больш выразна ставалася беларускасць.

У 1911 г. Тарашкевіч стаў студэнтам Факультэта гісторыі і філасофіі Пецярбургскага універсітэта. Расейскія навуковыя ўстановы прадстаўлялі тады найвышэйшы еўрапейскі ўзровень. Тарашкевіч пасля заканчэння навукі свабодна валодаў беларускай, рускай, польскай, нямецкай, французскай, лацінскай і грэцкай мовамі. У Пецярбургу, будучы яшчэ студэнтам, стаў ён членам Беларускай сацыялістычнай грамады, а таксама ўсялякіх культурных, навуковых, выдавецкіх суполак, якія аб'ядноўвалі беларусаў. Меў нагоду слухаць разважанні выдатных славістаў — Аляксея Шахматава, Яўхіма Карскага, Браніслава Эпімаха-Шыпілы — на тэму стварэння беларускай граматыкі. Можна сказаць, што пару гадоў пазней Тарашкевіч ажыццявіў іх ідэі. Першая *Граматыка* яго аўтарства паказалася ў Вільні ў 1918 г.

Падзеі 1917-1920 гадоў прымусілі беларускіх інтэлектуалаў заняцца палітыкай. Беларусам, як і іншым народам, нечакана з'явілася нагода дасягнення нейкай палітычнай аўтаноміі, а нават незалежнасці. Беларускія партыі аб'ядноўвалі тады малавопытных людзей, якія шукалі найлепшага выхаду для нацыі ў вельмі складаных умовах. Тарашкевіч быў сярод стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі, пасля разам з Вацлавам Іваноўскім шукаў паразумення з бальшавікамі, а ў канцы паверыў палякам, што яны дапамогуць стварыць нейкую аўтаномію. Сябраваў з Пілсудскім, які быў таксама сацыялістам родам з Віленшчыны. Да 1921 г. супрацоўнічаў з польскімі ўладамі, чакаючы абяцанай аўтаноміі. Год пасля стаў паслом і ўзначаліў Беларускі пасольскі клуб, які стварылі 11 паслоў і сенатараў ад усялякіх партый.

Тарашкевіч верыў, што польская дэмакратыя створыць умовы нацыянальнага жыцця для двухмільённай беларускай меншасці. Выкарыстоўваючы сеймавую трыбуну дамагаўся беларускіх школ, спынення гвалтаў паліцыі над беларускімі сялянамі, падзелу памешчыцкай зямлі, інвестыцый ва ўсходніх ваяводствах, свабоды дзейнасці культурных і грамадскіх арганізацый. У адказ усё рабілася наадварот. Дзяржава прыняла варыянт палітыкі накіраваны на асіміляцыю беларусаў. Кожная ініцыятыва, якая вяла да падтрымання беларускага нацыянальнага жыцця, знішчалася паліцыйнымі метадамі.

У гэты ж час у Савецкай Беларусі поўным махам стваралася беларуская нацыянальная дзяржава. Па волі народнага камісара Сталіна ў Беларусі нават партыйны і адміністрацыйны апарат стаў працаваць на беларускай мове. Культурныя, асветныя, навуковыя, выдавецкія ўстановы праяўлялі сваю актыўнасць выключна на мове народа. Для беларускіх дзеячаў у Польшчы не было ніякіх сумненняў, што ў Мінску вырашаецца лёс беларускай будучыні, а камунізм стварае ўмовы для вырашэння ўсіх нацыянальных праблемаў.

Ад 1923 г. Тарашкевіч супрацоўнічаў з камуністамі, а ў 1925 г. стаў членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, браў нават удзел у яе III З'ездзе, які адбыўся ў Маскве ў лістападзе гэтага ж года. У чэрвені 1925 г. Тарашкевіч разам з Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Пётрам Мятлой і Паўлам Валошыным выступілі з Беларускага пасольскага клуба і заснавалі Клуб Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Быў гэта пачатак партыі, якая год пасля стала найбольшай арганізацыяй у Польшчы. За Тарашкевічам пайшла амаль уся беларуская вёска. Маланкавае развіццё структур Грамады было масавым пратэстам супраць польскага панавання. 14 студзеня 1927 г. паліцыя арыштавала ўсіх дзеячаў Грамады. У турмах апынулася пару тысяч чалавек. Суд над Тарашкевічам і іншымі лідэрамі партыі адбываўся ў Вільні ад лютага да мая 1928 г. Абвінавачвалі іх у імкненні да далучэння ўсходняй Польшчы да БССР. Тарашкевіча засудзілі на 12 гадоў зняволення.

У турме Тарашкевіч заняўся інтэлектуальнай працай. Падрыхтаваў да выдання больш дапрацаваную версію *Беларускай граматыкі*, пераклаў на беларускую мову паэму Адама Міцкевіча *Пан Тадэвуш*. У 1930 г. польскія ўлады выпусцілі яго на волю. Не хацелі трымаць у турме чалавека, які для беларусаў быў сімвалам. Тарашкевіч аднак вырашыў адкрыта весці камуністычную дзейнасць. Другі раз паліцыя арыштавала яго ў дарозе на сустрэчу камуністаў у Берліне. Меў пры сабе дакументы, якія сведчылі пра яго супрацоўніцтва з Камінтэрнам, савецкія грошы, фальшаваныя дакументы. У той час памянялася нацыянальная палітыка ў БССР. Усё, што беларускае, стала ўспрымацца як антысавецкае. Тарашкевіч камуністам стаў толькі таму, што бачыў у гэтым дарогу да вырашэння нацыянальных праблем. Праўдападобна саветы дапамаглі польскай паліцыі знайсці доказы яго антыдзяржаўнай дзейнасці. Тарашкевіча засудзілі на 8 гадоў зняволення. У 1933 г., у рамках абмену палітычнымі вязнямі, перасяліўся ён у Савецкі Саюз. Не атрымаў аднак дазволу жыць у Мінску. Працаваў у Маскве ў Міжнародным сельскагаспадарчым інстытуце. Займаўся тым, што яго зусім не цікавіла. У Беларусі тым часам пасылаліся ў турмы ўсе стваральнікі беларускай навукі, культуры, уся нацыянальная эліта.

Для Тарашкевіча, чалавека гонару, не было месца ні ў Савецкім Саюзе, ні ў Польшчы. Вырашыў тады паехаць у Іспанію і змагацца там у абароне рэспублікі. Не атрымаў дазволу. Бальшавікі арыштавалі яго ў Маскве 6 мая 1937 г. і абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Польшчы.

**Яўген Міранович**

# Няма дзвюх родных моў

Асноўнай тэмай навуковай канферэнцыі, якую ў днях 27-28 лістапада г.г. арганізавала Кафедра беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку, была мова і тоеснасць на пагранiччы культур. Разглядалася яна ў чатырох тэматычных блоках — ва ўмовах Беласточчыны і Беларусі ды ў параўнаўчым і тэарэтычным кантэкстах. Даклады навукоўцаў, якія прадстаўлялі універсітэцкія цэнтры Польшчы, Беларусі і Расіі датычылі таксама месца мовы ў структуры тоеснасці на іншых пагранiччах і ў іншых этнасах, напрыклад, сярод кашубаў, лужычан, закарпацкіх русінаў ці букавінскіх палякаў. Маю ўвагу перш за ўсё прыцягнулі некаторыя даклады пра беларусаў Беласточчыны і моўную сітуацыю ў Беларусі.

Яўген Міранович у дакладзе „Нацыянальная свядомасць праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны" адзначыў, што ў нас асноўным крытэрыем нацыянальнай адрозненасці з'яўляецца не мова, але веравызнанне (напрыклад, беларускамоўныя каталікі Сакольшчыны былі ўладамі прызнаны палякамі). Ва ўмовах паўсюднага каталіцызму Праваслаўная царква становіцца апорай іншасці (хаця не фарміруе беларускай нацыянальнай свядомасці), а ўзнікаючая катэгорыя праваслаўных палякаў розніцца ад каталіцкіх сабратаў стаўленнем да гістарычнай і культурнай спадчыны польскага народа.

Уладзімір Навіцкі з Мінска гаварыў пра сучасную моўную сітуацыю ў Беларусі. Дакладчык падкрэсліў, што нягледзячы на суверэнітэт Беларусі моўная сітуацыя ў рэспубліцы далей застаецца складанай так як дзесяць, пятнаццаць ці дваццаць гадоў раней. Прывілеяванае, пануючае становішча рускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь заканадаўча было замацавана ў прынятай у 1996 годзе Канстытуцыі РБ і навязаваным законам аб мовах. Зараз становішча беларускай мовы больш цяжкае, сказаў дакладчык, чым у часы існавання савецкай сістэмы, якая была хоць трохі зацікаўлена ў захаванні культурна-моўнай адметнасці рэспублікі. Сёння ж лічыцца зусім неактуальным падтрымліваць, развіваць культурна-моўныя адметнасці Беларусі, бо яны перашкаджаюць усебаковай і грунтоўнай інтэграцыі з Расіяй. Дзеля дасягнення гэтай мэты сучасныя беларускія палітыкі галоўную стаўку робяць на рускую мову, увесь час заяўляючы, што яна з'яўляецца другой роднай мовай беларусаў і таму заслугоўвае ад дзяржавы ўсялякай падтрымкі, хаця ў такой апецы беларуская мова мае ў дзесяткі разоў большую патрэбу, чым руская. „Няма дзвюх родных моў ні ў рускіх, ні ў палякаў, ні ў немцаў, ні ў французаў, ні ў іншых цывілізаваных народаў, таму не трэба з беларусаў рабіць нейкую міфічную, надзеленую надзвычай вялікімі моўнымі здольнасцямі звышнацыю", — закончыў выступленне мінскі дакладчык.

На няроўнасць становішча беларускай мовы ў Беларусі звярнула ўвагу прафесар Альжбета Смулкова ў дакладзе „Двухмоўе па-беларуску". Закладзены ў загалоўку даклада сарказм, як сказала дакладчыца, быў навеяны вынікамі рэферэндуму ў справе моў, якое ўзаконіла перавагу рускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь. Такая сітуацыя спараджае шмат адмоўных з'яў, вынікам чаго з'яўляецца пашырэнне трасянкі — беларускага варыянту рускай мовы, якім карыстаецца перш за ўсё чыноўніцтва.

На працягу двух дзён было зачытаных пад сорак дакладаў і паведамленняў, з якіх большая частка датычыла беларусаў і Беларусі цяпер і ў мінулым. Сучаснае становішча беларускай мовы, на жаль, аказваецца падобным на сітуацыю малых народаў, напрыклад, лужычан у Нямеччыне. Цяпер лужычане поўнасцю двухмоўныя і не лічаць сваю мову найвышэйшай каштоўнасцю, а маладое пакаленне толькі ў дзесяці працэнтах карыстаецца сваёй роднай мовай. Паралелі з беларусамі надта выразныя: і ў нас на Беласточчыне, і за ўсходняй мяжой.

У ходзе канферэнцыі адбылася прэзентацыя анталогіі *Беларуская думка XX стагоддзя. Філасофія, рэлігія, культура*, выдадзенай Інстытутам славістыкі Польскай акадэміі навук. Кніга, складзеная Юрыем Гарбінскім, уяўляе сабою першую спробу сістэматызацыі і абагульнення ўсяго інтэлектуальнага вопыту прадстаўнікоў беларускага народа ў кантэксце праблемы Беларусі як эпіцэнтра культурна-цывілізацыйных уплываў Усходу і Захаду і змяшчае тэксты беларускіх мысліцеляў, праваслаўных і каталіцкіх дзеячаў, пісьменнікаў, вучоных, публіцыстаў і палітыкаў.

**Віталь Луба**

Міхась Андрасюк

# Вуліца Добрай Надзеі

**3. Вайна**

Танкі не прыязджаюць. Чацвёрты дзень працягваецца вайна, выпаўзае з тэлевізараў, трывожна бурчыць вуснамі радыёпрыёмнікаў, а на нашай вуліцы цішыня і спакой. Мо толькі мужчыны пасталелі, раптоўна пахаладзелі, выпраставаныя брыдуць у заснежанае, акаленае ад холаду мястэчка, быццам бы ступалі насупраць сваёй, заўжды аднолькавай у ваенны час мужчынскай долі. І вопыт у вайсковай справе, які ў мужчын аб'яўляецца невядома адкуль, ці не сам па сабе нават, загадвае ім спаглядаць на сябе недаверліва і падазрона. Вайна ж прадказваецца на грамадзянскую, ды не адгадаць хто прыяцель тут, а хто вораг. Мо заўтра ўжо пакліча радзіма, а сёння, пакуль што, ступаюць у фабрыку. Дома развітваюцца з жанчынамі, ганарыста і жорстка, як ганарыстай і жорсткай бывае мужчынская ваенная справа. Пасля барацьбы, пасля перамогі — будзе час ласкі і пяшчот, а цяпер, абмінаючы жаночыя вочы, на пытанне, што будзе далей, адказваюць: не плач, баба, нармальна будзе. І бабы не плачуць. Паглядзеўшы з-за фіранак на адыходзячыя ў замець постаці, канчаюць рыхтаваць сняданак, разбуджваюць дзяцей і таксама адпраўляюцца ў свет. Зусім недалёка той бабскі свет. Абы-як пафарбаваны на зялёны колер прадуктовы кіёск, бы пузаты смок акружаны бабамі паўзе ў глыбокі снег, доўгім, пакручаным хвастом адбіваючыся ад белай, нахабнай мухаўні. Час ад часу махне за сябе буханку хлеба або кілаграм солі і бабы, схапіўшы і хлеб, і соль, зрываюцца з хваста, шыбуюць дамоў, усміхаючыся ад малога шчасця. А дом пухне ад солі, прасякае соллю, насычаецца. Бо соль вандруе шляхам вайны і завітвае ў хаты раней чым плач і смерць.

Тым часам дзеці, сяк-так накормленыя, рассыпаюцца ўздоўж вуліцы, цікуючы, адкуль прыедуць танкі. Ці ад Хітрай, ці ад Кляшчэляў? Вялікія гарады запаўняюцца танкамі, зеленеюць ад мундзіраў вуліцы, а тут хоць ты плач: цішыня, спакой, задрыпонія.

І толькі, прафануючы незвычайны, сур'ёзны час, у канец вуліцы, недзе ад хітранскіх палёў, папярэджаныя званочкамі, пад'язджаюць сані. Палоззе паскрыпвае, рэжа снег у дзве доўгія каляіны, а далікатны ветрык падбірае з шытка ў восеньскі арамат атавы ды развейвае яго ўздоўж дарогі. І конь, схапіўшы гэты пах у раздутыя ноздры, што і раз адваротвае галаву, аглядаецца на захутанага ў доўгі кажух гаспадара.

Чатыры салдацікі ў зялёных уніформах, з пачырванелымі ад марозу вушамі, вартуюць побач Варварынай хаткі. За размаляванымі ў вострыя, срэбныя кветкі шыбамі, трымае варту і сама гаспадыня.

Конь, знюхаўшы вайсковыя мундзіры, спыняецца. Генетычнымі камутатарамі з пакалення ў пакаленне трансмітуецца конская пашана ваеннаму чалавеку. Што бачаць цёплыя, карыя вочы ў той суконнай зелені? Ганарысты парад легіёнаў? Маланкавую атаку Будзённага? Перамешваюцца конскія гены, блытаюцца, асабліва тут, на памежжы. Пераплятаюцца і людскія лёсы. На тое і ёсць вайна, каб наша аддзяліць ад чужога, ачысціць, удасканаліць.

Салдацікі абступаюць шыткі і гаспадар, які не адну вайну ў сваім жыцці бачыў, здагадваецца, чаго ад яго патрабуюць. Скінуўшы рукавіцы, з-за пазухі дастае пашпарт, тлумачыць нешта, пільна загдадаючы ў капральскія вочы. Мо стараецца вываражыць з гэтых вачэй сваю будучыню? Капрал чытае зялёную кніжачку, слухае і ўжо ведае, што гаспадар называецца Аляксандр Марчук, і што едзе да дачкі, і што дачка яго жыве па гэтай якраз вуліцы. Даўно не быў, дык і едзе паглядзець, як тут ёй вядзецца.

Астатнія салдаты капаюцца ў санях і — здаецца — мала іх цікавіць асоба Аляксандра Марчука. Рыюцца дакладна, метадычна, а калі адслоняць пучок сена, разгорнуць куль саломы, у чырвоныя вайсковыя тварыкі, выскаліўшы доўгія жоўтыя зубы, засмяецца сарамлівая, васковая морда свежаасмаленага кабана. Мабыць здагадваецца, што ў сур'ёзны ваенны час, без адпаведных дазволаў нельга падарожнічаць каму і куды заманіцца, а ўжо асабліва такім як ён кабанчыкам. Нават да роднай дачкі свайго гаспадара.

Многае нельга. Нельга валэндацца пасля дзесятай вечара, нельга групавацца на вуліцы, нельга слухаць эр-вуэ. Не дазваляецца, і баста! Дазваляецца толькі мёрзнуць салдацкім вушам пад скупымі зялёнымі шапкамі. І салдаты, прытанцоўваючы ад холаду, круцяцца наўкол саняў, пакуль найадважнейшы, а па прычыне капральскага звання і камандзір, не спытае:

— А што-небудзь да гэтай закускі ёсць?

Пытанне, можна сказаць, зусім лішняе. Не першая ж гэта вайна ў Аляксандравым жыцці, і хто як хто, а ён дасканала ведае, што ў такі час поўная пляшка — дакумент лепшы за ўсе пропускі, ахоўныя граматы, а нават і дэпутацкія білеты.

Салдаты, атрымаўшы жаданую рэч, падаюцца ў свой бок, шукаюць нейкае зацішнае месца, дзе не дагледзяць іх вочы шпіёнаў і не пачуюць вушы дыверсантаў. Толькі дзеці, не дачакаўшыся танкаў, прыглядаюцца, як з дапамогай Аляксандравай пляшкі абаронцы дзяржаўнага ладу даводзяць свае змёрзлыя вантробы да належнай чалавечаму гатунку тэмпературы.

# „Гарачыя вароты"

Выйшаў з друку першы нумар „белавежскага" часопіса — літаратурнамастацкага і беларусазнаўчага гадавіка „Тэрмапілы". Як заўважае ва ўступным слове „У добры час" рэдактар Ян Чыквін, „ён не з'яўляецца непасрэдным працягам старонкі «Белавежа», якая закончыла свой выхад на 460 нумары, здзейсніўшы сваю арганізацыйна-выдавецкую ролю". Беларускі літаратурны рух у Польшчы гэтым самым „набывае з гэтым выданнем новыя магчымасці, найперш для публікацыі «даўжэйшых» жанраў прозы, эсэ, сцэнічных твораў, крытычных артыкулаў, рэцэнзій", ёсць таксама месцам сустрэчы для ўсіх, хто займаецца літаратурай, культурай і даследчыцкай працай у Польшчы і па-за яе межамі.

У першым нумары „Тэрмапілаў" („Гарачыя вароты") змешчана частка матэрыялаў сёлетняй беластоцкай Міжнароднай канферэнцыі (20-21 чэрвеня) прысвечанай саракагоддзю „Белавежы" — „Polsko-wschodniosłowiańskie pogranicze kulturowe" Базыля Белаказовіча, „Мэтанойа" і рэстаўрацыя нацыянальнай свядомасці: беларускі кантэкст" Міхася Тычыны, „Беларускі міф як вобраз нацыі ў беластоцкай паэзіі 80-90 гадоў" Людмілы Рублеўскай, „Сакрат Яновіч у кантэксце беларускай традыцыі" Галіны Тычкі, „Слухаючы пошум вякоў" (пра творчасць Міколы Гайдука) Вольгі Шынкарэнкі, „Узаемаўплыў творчых індывідуальнасцей (Ян Чыквін — Уладзімір Гайдук)" Людмілы Зарэмбы, „Чалавек, прастора і час у зборніку Яна Чыквіна «Свет першы і апошні»" Анатоля Рачанчука, „Motyw ognia w twórczości poetów BSL «Białowieża»" Тэрэсы Занеўскай, „«Białowieżanie» i tradycja Franciszka Bahuszewicza" Ірэны Рудзевіч, „«Białowieżanie» i tradycja Janki Kupały" Уладзімежа Стохэля, альштынцаў Валенты Пілата „Białorutenika olsztyńskie" і Рышарда Радзіка „Białoruski czas" (пералічваю ўсе надрукаваныя тэксты, каб рэдактар зноў чамусьці не забыўся пра Віктара Шведа (аналітычны артыкул Надзеі Панасюк пра ягоную творчасць для дзяцей не знайшоў месца ў зборніку, які меў быць плёнам згаданай канферэнцыі), падобна як і эсэ Альбіны Сямёнавай пра самых цікавых, **паводле яе**, „белавежскіх" паэтаў; трэба мецъ надзею, што цікавыя працы гэтых выдомых і аб'ектыўных даследчыц знойдуцца ў „Тэрмапілах" '99!). Затое знайшлося месца, для выдатнай акрасы моцна навуковага нумару, для добрай літаратуры, не толькі „нашай" — ёсць выдатныя вершы Ніны Мацяш, найлепшыя Галіны Тваранові ч, знакамітая кароткая проза волата Янкі Брыля, урыўкі дзённіка Масея Сяднёва, вершы рэдактара Яна Чыквіна. Сакрат Яновіч разважае ў сваім займальным эсэ пра „Янку Купалу і спробу адраджэння беларускай нацыі", а Ян Чыквін выступае як навуковец у артыкуле „На скрыжаванні эпох (да пытання літаратуразнаўчага інструментарыя вучонага)". Каротка рэцэнзуюцца кнігі: Тадэвуша Зенкевіча „Polskie życie literackie w Mińsku w XIX w. i na początku XX wieku" (выданне ВСП у Ольштыне) і „Strażnicy pamięci" (выданне Універсітэта ў Беластоку) ды „Легенды Беласточчыны" Міколы Гайдука...

Падаецца скарочаная хроніка падзей з жыцця „Белавежы" ў 1997 і 1998 гадах (здаецца, не ўсе здарэнні ўдалося хранікёру сабраць, бо не ўспамінае, напрыклад, пра аўтарскія сустрэчы Надзеі Артымовіч, хоць іншыя, паводле яго, не менш істотныя, увекавечыў. А, можа, паэтка робіць усё ў таямніцы?!). Падобна ёсць і з „Беларускай бібліятэкай". Я зусім непрыдзірліва стаўлюся да зборніка, аздобленага і маім партрэтам, сябры, толькі хочацца, каб ён сапраўды быў выдатны. Гэта ж тое, чаго мы чакалі сорак гадоў! Каму ж хацелася абы-хутчэй яго... зляпаць? Як на медыяльны і эстэтычны факт замнога ў часопісе эдытарскіх і карэктарскіх памылак, звычайнага паспешлівага неахайніцтва ў выкананні. Можа такое даравацъ на нейкай газетнай літаратурнай старонцы. Тэрмапілы гэта ж не... бензапілы — жах! і ўсё! Выдатны паэт не мусіць быць майстрам на ўсе рукі. Варта мець пад бокам звычайнага ўседлівага шэранькага карэктара, які ўдзяўбецца ў тыя літаркі, з якіх вялікія ўклалі тыя векапомныя словы, дэфіс адрозніць ад працяжніка і час ад часу ў слоўнік загляне! Што напішаш пяром, таго не высячэш тапаром, калі заставацца пры дрэваапрацоўчых тэрмінах.

Міра Лукша

„Тэрмапілы. Паэзія, проза, крытыка", н-р 1, Беласток 1998, сс. 132.

# Вартавыя эдэльвейсу і скразнякоў

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс з глыбока-сімвалічным загалоўкам „Тэрмапілы" канчаецца пералікам беластоцка-беларускіх літаратурных і літаратуразнаўчых выданняў двух апошніх гадоў. Загаловак гэтай рубрыкі „Беларуская бібліятэка папоўнілася новымі кнігамі" павінен гучаць наступным чынам: „Беларуская бібліятэка ў хаце рэдактара папоўнілася новымі кнігамі".

Якім чынам у гэтую хатнюю бібліятэку трапіла кніга, якой яшчэ няма ў прыродзе — *Literatura białoruska w Polsce. 1945-97. Bibliografia przedmiotowa* — цяжка сказаць. Мабыць магчыма гэта па прычыне вялікай любові рэдактара да кніг, якая прыспешвае працэс матэрыялізацыі віртуальнага быту. Аднак жа, цяжка ўявіць, каб уяўныя (выбачайце за каламбур) пазіцыі змаглі запоўніць на паліцы месца кніг, якія, хоць і бытуюць у рэальным свеце, але туды не трапілі. Хай сабе пустое месца не нагадвае бульбяную яму, а ўсяго чорную дзірку ў роце пасля вырванага зуба, не прыдае яно харавства ні кніжнай паліцы, ні чалавеку.

Сапраўдны кнігалюб, вядома, спаць спакойна не будзе, калі ўведае пра пустое месца ў сваёй бібліятэцы. Дзеля спакойнага сну, менавіта, ветліва падказваем, што не хапае там наступных выданняў:

**1997 год**

1. *Плыву морам майго жыцця. Плён II Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы*, Беласток.

2. Aleś Razanau, *Zdobywcy. Tłumaczenie Oleg Łatyszonek*, Białystok.

**1998 год**

1. *Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji białoruskiej 1987-1997.* Wybór i posłowie Jan Maksymiuk, Białystok.

2. Adam Hlobus, *Demonokameron*, Przekłady z białoruskiego pod redakcją i posłowiem Jana Maksymiuka, Białystok.

3. Уладзімір Саўчук, *Што ў сэрцы*, Беласток.

4. *Зноў чуеш словы. Плён III Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы*, Беласток.

Хроніка „Тэрмапілаў" не адзначае ніякай драбязы: літаратурных конкурсаў, у якіх прымаюць удзел дзеці, семінараў „моладзі", якой ужо за трыццаць, ані шумных прэзентацый новых кніг у Беластоку (правінцыя). У агульнаеўрапейскі кантэкст упісаўся, затое, і меў фундаментальнае значэнне для нас „Трэці Ломжынскі Літаратурны Чэрвень (правапіс „Тэрмапілаў" — аўт.), у праграме якога мелі месца творчыя дыспуты і аўтарскія сустрэчы ў горадзе".

Лягчэй вярблюду праціснуцца праз вуха іголкі, чымсьці аматару літаратуры прайсці паўз строгіх вартавых „Тэрмапілаў". За „гарачымі варотамі" — абсалютная вяршыня. Краіна снегу, эдэльвейсу і горных казлоў. Над ёю кружаць ганарлівыя арлы, а страшныя вятрыскі спараджаюць пранізлівыя скразнякі.

Мікола Ваўранюк,
Аляксандр Максімюк

**Зорка**
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# *Запусты ў „адзінаццатцы”*



24 лістапада г.г. завітала „Зорка” ў ПШ н-р 11, што па вуліцы Палескай у Беластоку. Ад двух гадоў вядзецца тут навучанне беларускай мовы. Нагодай для сустрэчы сталася святкаванне „Запустаў”. Разам з дзецьмі прысутнічалі бацькі. Яны менавіта падрыхтавалі святочнае застолле і музыку „Журавінак”.

На пачатку сустрэчы дзеці прадэкламавалі завучаныя спецыяльна на „Запусты” вершы пра звяроў. Пачаў Паўлік Пятэльскі. Непаседлівы першакласнік, пад строгім наглядам таты, беспамылкова сказаў верш „Мядзведзь”. Хлопчык толькі з гэтага года пачаў хадзіць на беларускую мову. Самы адважны ў групе Марцін Мірановіч (таксама пад пільным наглядам мамы) выступіў з вершам пра вавёрку.

Пасля першакласнікаў выступілі старэйшыя школьнікі — другакласнікі і трэцякласнікі: Эва Сегень, Міхась Альховік, Наталька Рудчык, Сара Пятрышык, Пятрусь Стэльмашук і Гжэсь Мірановіч. Эва Сегень прынесла з сабой „Ніву”, каб паказаць сваім сябрам надрукаваны ў „Зорцы” малюнак паводле „Вершаў Натальцы” Віктара Шведа. Дзяўчынка атрымала ад нашай рэдакцыі каляровую кашульку, размаляваную дзецьмі.

У ПШ н-р 11 урокі беларускай мовы наладжаны для міжшкольнай групы. Зараз тут 9 навучэнцаў — з першага па трэці клас. Большасць з іх прыязджае сюды з далёкіх кварталаў горада. Дзеці сустракаюцца кожны аўторак, у 15 гадзін 45 хвілін. Заняткі працягваюцца два ўрокі.

— Знаёмімся з літарамі, развучаем вершы, песні, чытаем казкі і ладзім цікавыя гульні, — кажа настаўніца Тамара Бялькевіч, якая даязджае з Гарадка (год раней з дзецьмі працавала настаўніца Аліна Ваўранюк).

Сярод навучэнцаў распазнала я выпускнікоў беларускага прадшколля. Сара Пятрышык, Пятрусь Стэльмашук (і адсутны Міхась Хмялеўскі) не раз ужо сустракаліся з „Зоркай”. Але іх новыя сябры ды бацькі паабяцалі падтрымоўваць сувязі з нашай рэдакцыяй. Бацькі распытвалі пра Сустрэчы „Зоркі” і падпіску „Нівы”.

— Пасля посту наладзім школьную ёлку, — сказала настаўніца. — Зноў будзе добрая нагода для сустрэчы.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*

*Францішак*
*КАБРЫНЬЧУК*

## *Зіма*

Белае поле.
Белая ночка.
Белы сняжок свежы.

Белым канём
белая зіма
імчыць у Белавежу.

У Беластоку
бела навокал,
пішу ручкай белай.

Верш мой таксама
меўся быць белы
ды выйшаў няўмелы.

## *Калі б не было лясоў...*

Калі б не было лясоў,
рубалі іх пастаянна,
хто б шумеў нам песні
на „добры дзень” і „дабранач”?

Ведаеце, што было б,
калі б лес загінуў?
Не было б памяшканняў
лясной звярыне.

Пушча загінула б марна
і жыла б толькі ў казках.
Сумнае было б жыццё
без звярынай ласкі.

І ты птушкам ля дома
пасадзіць дрэва можаш,
а напэўна песняй
падзякуюць табе прыгожа.

## *Два асілкі*

Бегаў мароз у полі,
быў у страшэнным стрэсе.
Ён на зубра наткнуўся
у Белавежскім лесе.

Мароз усемагутны,
зубр моцны нечувана,
бароцца падняліся
тут на лясной паляне.

Думаў на небе месяц:
— Тут пераможа хто ж?
Зубр-волат меў больш сілы
і перамог мароз.

*З польскай мовы*
*пераклаў Віктар Швед*

## *Польска-беларуская крыжаванка № 50*

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 46:** Дуля, пашана, Лазар, гуркі, арс, ляскат, ас, клас. Далягляд, душа, лаз, рака, яна, краса, арфіст.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Ірэна Драўноўская**, **Барбара Кананюк** з ПШ у Новым Корніне, **Бэата Парфянюк** з ПШ у Махнатым, **Паўліна Савіцкая** з ПШ у Гарадку, **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага.

Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Szminka | | | Język<br>Siłacz | | | | | Lato | | Lin | Sikorka |
| Zainteresowania | | Cygan | | Głąb | Wilk | | Litr | | | Chińskie imię | |
| | | | | | | | | | | | |
| Mydło<br>Rogacz | | | | | Wieloryb | | | | | | |
| | | | | | | Taksówka | | | | | |
| Willa<br>Pan | | | | | | | | | Sad | | |
| | | | | | Szarada | | | | | | |

# Пушчанская дзяўчына

**Знаходзімся ва ўрочышчы Падцэрквы, што ў глыбі Белавежскай пушчы. Патухае вогнішча... Пры ім гутарыць са мною Дзіна Мархлевіч, вучаніца VIII класа Пачатковай школы ў Белавежы. Нарадзілася яна ў Рудзе-Слёнскай. Аднак амаль цэлае сваё жыццё правяла ў Белавежскай пушчы.**

***— Як гэта сталася, што жывеш у Белавежскай пушчы?***

**Дзіна Мархлевіч:** — Калі я нарадзілася, бацькі рашылі пераехаць жыць у іншае месца, здалёк ад горада. Пачалі званіць да розных ляснíцтваў і ў канцы тут, у Белавежы, старшы ляснічы зрабіў магчымым пераехаць нам у гэтую прыгожую пушчу.

***— Колькі гадоў тут жывеш?***

— Жыву тут амаль чатырнаццаць гадоў.

***— Ці цэлы час твая сям'я жыла ў лясной вартоўні?***

— Гэтыя чатырнаццаць гадоў не жылі мы ў адным месцы. Найперш жылі мы ў прыгожым урочышчы Дуброва, пасля ва ўрочышчы Падцэрквы, а цяпер жывем у Чарлёнцы.

***— Што робяць твае бацькі?***

— Мае бацькі займаюцца турызмам, апрача гэтага бацька працуе ў лесе.

***— Як ты штодзённа дабіраешся ў школу?***

— Са школай маю нейкія праблемы таму, што каб паспець на заняткі, мушу ўстаць у 6 гадзін, а з хаты выходжу на аўтобус у 7 гадзін. Да прыпынку 1,5 кіламетра. Потым на аўтобусе еду 13 кіламетраў у Белавежу.

***— Што ў вольныя хвіліны робіць дзяўчына, якая жыве ў Белавежскай пушчы?***

— У вольныя хвіліны займаюся маёй прыгожай кабылай. Апрача гэтага ганга езджу на веласіпедзе па пушчы.

***— Ці жыццё ў пушчы цяжкое?***

— Жыццё здалёк ад цывілізацыі складанае. Ёсць вялікія праблемы з даездам нават у Гайнаўку ці Белавежу. Зімой аўтобусы спазняюцца, а нават увогуле не прыязджаюць.

***— Ці хацела б ты перасяліцца ў горад?***

— Белавежская пушча мае сваю чароўнасць і, нягледзячы на ўсё, я не хацела б пераехаць у горад.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Міхась Сцепанюк**

# Завіруха

На змярканні стаў шумець вецер. Пасыпаўся дробненькі снег. Зімовыя хмары нізка павіслі над амярцвелаю зямлёй. Вецер мацнеў. Неба і зямля зліваліся ў суцэльны вір снегападу і цямрэчы. Разгулялася завіруха. Здавалася, не будзе канца яе лютай сіле, яе злоснаму завыванню. На вуліцы, як і раней, віраваў снег. Яго белая заслона закрывала будынкі і дрэвы. Навокал усё гуло, трашчала, выла і скуголіла. Шалёна біліся аб сцены аканіцы. Бура налятала парывамі, як дзікі звер, які вырваўся на волю з жалезнае клеткі. А якую жаласліую песню заводзіў камін. Штосьці жудаснае чулася ў гэтай песні, быццам плач.

**Аліна Сіроцкая**

# „Чадовая” гульня!



*Алег Кабзар і сябры.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Кастрычнік — месяц беларускай песні ў Бельску-Падляшскім. Тады адбываецца „Бардаўская восень”. Ужо ад пяці гадоў у наш горад прыязджаюць найлепшыя выканаўцы гэтага музычнага жанру.

У гэтым годзе арганізатары — Звяз беларускай моладзі — запрасіў многа цікавых выканаўцаў: НРМ, Новае неба, Уліс, Алесь Камоцкі.

Нам асабліва падабалася выступленне Алега Кабзара і „Народнага Альбома”. Яны далі чаду!

У час мерапрыемства можна было купіць таксама касеты гуртоў і кніжкі з паэзіяй і жывапісам.

Думаем, што такія канцэрты павінны адбывацца часцей. Яны прыцягваюць многа людзей у розным узросце, асабліва моладзь. Пры бардаўскай песні ўсе добра гуляюць.

**Эвэліна Тымашэвіч**
**і Эва Прафірук,**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Дарагія чытачы „Зоркі”...



*Дзеці з ПШ н-р 4 у Беластоку.*

... Мы, вучні класа II „ц” Пачатковай школы нумар 4 у Беластоку. Ужо другі год мы вучымся беларускай мовы. Хочам Вам расказаць пра сустрэчу з Віктарам Шведам, якая адбылася ў нашай школе 20 лістапада гэтага года.

У сустрэчы прымалі ўдзел вучні з нашага і III „а” класаў. Паэт расказаў нам пра сваё жыццё, творчасць і чытаў вершы.

Мы даведаліся, што першыя чатыры гады жыцця спадар Швед хварэў на вочы і сядзеў у цёмным пакоі. Першы верш напісаў у 12 гадоў і меў загаловак „Канікулы”. Вельмі любіў хадзіць у школу і вучыцца.

У час перапынку мы бралі аўтографы ў аўтара вершаў. Потым мы і нашы сябры, што не вучыцца беларускай мовы дэкламавалі вершы і спявалі песні на словы спадара Шведа. Усе праспявалі ягоную „Калыханку”. Потым былі пытанні.

Мы даведаліся, што гэта была першая сустрэча Віктара Шведа з вучнямі ў Беластоку.

Мы вельмі цешымся, што маглі лепш пазнаёміцца з татам нашай сяброўкі Натанькі.

**Магда, Мая, Наталька,**
**Эля, Міхал, Караль**

# Сустрэча з Віктарам Шведам

18 верасня ў Бельску-Падляшскім пабываў вядомы дзіцячы пісьменнік Віктар Швед. Наведаў ён пачатковую школу н-р 3. Быў ён на сустрэчы ў нашым класе.

Мы вельмі радасна прывіталі пісьменніка. Потым Віктар Швед пачаў расказваць пра сваё жыццё. Гаварыў пра тое, што ён нарадзіўся ў вёсцы Мора на Беласточчыне. Пражываў там да 1944 г., пасля пайшоў вучыцца ў беларускую гімназію ў Гайнаўцы. Потым закончыў журналістыку Варшаўскай акадэміі палітычных навук і беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Многія гады працаваў рэдактарам у выдавецтве „Ксёнжка і Ведза”. Ён выдаў многа зборнікаў паэзіі. Піша пераважна для дзяцей. Спачатку ён пісаў сатырычныя вершы. Сёння найбольш піша вершаў для дзяцей.

Па словах Віктара Шведа мы пачалі ставіць пытанні. На канец паэт прадставіў нам свой новы зборнік „Вершы Натальсы”, які мы купілі з яго аўтографам. Можна было таксама купіць іншыя яго зборнікі.

Мне вельмі падабалася гэтая сустрэча. Думаю, што яшчэ не раз буду чытаць вершы Віктара Шведа.

**Міхал Раманюк, клас VI „б”**

# Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры

У 1926 г. сярод беларускіх дзеячаў у II Рэчы Паспалітай наступіў падзел на прыхільнікаў мабілізацыі грамадства да палітычнай актыўнасці і тых, якія хацелі яе абмежаваць да асветнай, культурнай і гаспадарчай дзейнасці. Першая група аб'ядналася вакол лідэраў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, другая — вакол віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта, Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і Беларускага сялянскага саюза. Дзеячы дзвюх апошніх арганізацый — Адам Станкевіч, Васіль Рагуля, Вячаслаў Багдановіч, Аляксандр Уласаў — у чэрвені 1926 г. заснавалі Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. **Лічылі яны, што каб нечага дасягнуць, беларусы спачатку павінны, як грамадства, быць больш адукаванымі і нацыянальна свядомымі.** Дзеля гэтага патрэбны былі свае культурныя і асветныя ўстановы. Польская дзяржава іх даць не магла, таму што імкнулася як найхутчэй асіміляваць беларусаў. У такой сітуацыі заснавальнікі Інстытута хацелі стварыць фінансавыя падставы для забеспячэння існавання прыватных беларускіх школ, выдавецкай дзейнасці і культурных устаноў.

У 1931-1934 гадах Інстытут налічваў 80 гурткоў, якія аб'ядноўвалі звыш 1,2 тысячы членаў. У гэтым перыядзе ўлады засяроджваліся на ліквідацыі беларускіх палітычных арганізацый у тагачаснай Польшчы. Шмат актыўных людзей трапляла тады ў рады ўстаноў, будаваных Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры. У 1936 годзе пачаліся, аднак, і рэпрэсіі супраць беларускіх асветных, культурных і гаспадарчых арганізацый. Ліквідаваліся выдавецтвы, бібліятэкі, Таварыства беларускай школы. 4 снежня 1936 г. польскія ўлады забаранілі дзейнасць Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.

# Радаваць іншых



*Падчас рэалізацыі дакументальнага тэлефільма пра Орлю. На яўрэйскіх могілках. Злева: Пётр Нестаровіч, Міхал Мінцэвіч і Мікалай Нестаровіч — вядомы кінадакументаліст, ураджэнец Орлі.*

**Расказ Міхала МІНЦЭВІЧА — непрафесійнага мастака, аўтара фотавыставы „Пяць стагоддзяў Орлі і наваколля".**

Сур'ёзны падыход да кожнай тэмы патрабуе многа часу, нават некалькіх гадоў, каб сабраць патрэбны для выставы матэрыял. Патрэбны таксама садзеянне іншых людзей, устаноў і грошы. У маім выпадку садзеяння з установамі не было, бо маёй дзейнасцю не цікавіліся ні гмінныя ўлады ў Орлі, ні Рэгіянальны музей у Бельску, у якім ад 1995 рода чакаю свабоднага тэрміну для выставы. Затое сустрэў я зычлівых людзей, якія аказалі мне дапамогу.

**Падрыхтоўка матэрыялаў**

Апрача жадання сабраць матэрыял патрэбны фатаграфічнае і фанаграфічнае абсталяванне, бо трэба зрабіць здымкі помнікаў мінуўшчыны і запісаць успаміны старажылаў. Для гэтага неабходны фінансавыя сродкі. На працягу некалькіх гадоў на фотаматэрыялы траціцца некалькі тысяч злотых. Многа часу займае апрацоўка сабранага матэрыялу для публікацыі ў часопісах. Сабраны мною на працягу трох гадоў матэрыял з'явіўся спачатку ў друку. Для арганізацыі самой выставы таксама неабходны грошы, напрыклад, для выканання стэндаў, ксеракопій артыкулаў, павелічэння здымкаў, друку запрашэнняў і рэкламных матэрыялаў.

**Знайшліся прыхільныя людзі**

19 лютага г.г. разам з дырэкцыяй Падставовай школы звярнуліся мы з афіцыйнай просьбай ва Управу гміны і да арлянскага войта, каб супольна наладзіць гістарычную фотавыставу пра Орлю. На жаль, гмінныя ўлады нашу прапанову поўнасцю праігнаравалі. Затое знайшліся прыхільныя людзі, якія падтрымалі нашу ідэю. Першым з іх быў галоўны рэдактар штомесячніка „Przegląd Prawosławny" Яўген Чыквін, які перадаў на гэтую мэту сто злотых. У ліку маіх спонсараў былі Юрый Хмялеўскі — галоўны рэдактар „Czasopisu" і арлянскія прадпрымальнікі — Юрый Шыманскі, Ян Куна, Марк Хмялеўскі, Аляксей Ляшэвіч і Ілья Адзіевіч, за што ім вельмі дзякую. Надпісы зрабіў мне на камп'ютэры Юрый Паплаўскі з Бельска, транспарт далі мне Генрык Камінскі і Мірaслаў Васілеўскі, а пры фатаграфіях памагаў мне Міхал Кубаеўскі ды многія іншыя.

**Выстава — абуджэнне памяці**

Сябра перавёз матэрыялы для выставы на сваёй машыне маркі „Жук" на два дні да адкрыцця. За гэты час трэба было мне ўстанавіць у зале стэнды і развесіць на іх усе матэрыялы. Што і раз хтосьці заходзіў у школу паглядзець як ідзе работа, бо плакаты аб выстаўцы былі развешаны раней, многія тэлефанавалі ў школьную канцылярыю. А 5 верасня было адкрыццё, на якім канферанс вёў Ян Мордань. Выстава мела працаваць да канца верасня, але з прычыны шырокага зацікаўлення працавала яна да канца кастрычніка.

Тыдзень пасля адкрыцця ў Орлі адбылася настаўніцкая метадычная канферэнцыя на тэму выкарыстання накопленых мною краязнаўчых матэрыялаў у прагандаванні гісторыі нашых малых айчынаў у школах Беласточчыны. Маю выставу таксама распрапагандавала метадыст беларускай мовы Тамара Русачык. Дзякуючы ёй выставу наведалі школьнікі з Храбалоў, Рыбалаў, Крывой і Дубіч-Царкоўных.

26 верасня г.г. выставу наведала журналісцкая экіпа І Праграмы Польскага тэлебачання (Яцэк Шчэпаняк ды Пётр і Мікалай Нестаровічы), якая ў памятнай кнізе запісала, што выстава „пабудзіла памяць аб мінулым і стала інспірацыяй для фільма пра Орлю". Да сённяшняга дня журналісты зарэгістравалі 10 гадзін тэлематэрыялу пра мястэчка і далей працуюць над тэмай.

У кнізе водгукаў настаўнік Васіль Сегень з Гайнаўкі напісаў: „Я захоплены вынаходлівасцю і прафесіяналізмам аўтара. Гэта прыгожае. Улады гміны Орля павінны шанаваць такога чалавека. Гэта скарб..." 30 кастрычніка адбылася першая сесія новаабранай Рады гміны. У мяне ўзнікла надзея, што пераканаю радных і гмінныя ўлады наведаць маю выстаўху. У выніку выставачную залу наведала 11 радных і войт. Агулам выставу „Пяць стагоддзяў Орлі і наваколля", якая мела выключна беларускі характар, наведала некалькі соцень чалавек. Наведвальнікі пераканаліся ў тым, што беларускія перыядычныя выданні дбаюць пра папулярызацыю гісторыі ў нашым асяроддзі і адыгрываюць важную ролю ў культурна-асветніцкай дзейнасці.

* * *

Выставы ўжо няма, але цікавасць да яе не прапала. Прыязджаюць да мяне людзі паглядзець матэрыялы дома. Адзін піша сачыненне, іншы — дыпломную працу. А 24 лістапада наведаў мяне журналіст Лешэк Філіповіч з экіпай тэлеканала Nasza TV з Варшавы, якой я дапамог зрабіць рэпартаж пра гісторыю арлянскіх яўрэяў. Мне — непрафесійнаму мастаку — радуецца сэрца. Мастак тады адкрывае дарогу да шчасця, калі адчувае неабходнасць тварыць і тварыць ды даваць радасць іншым. Выстава „Пяць стагоддзяў Орлі і наваколля" апраўдала мае спадзяванні. Цяпер рыхтую чарговую выставу пра Арлянскую зямлю і яе жыхароў.

# „Хрысціны" ў Клубе польска-беларускіх спраў

**19 лістапада г.г. вучні з Клуба польска-беларускіх спраў „Граблі", што дзейнічае ў Гайнаўскім белліцэі, сарганізавалі ў Беларускім музеі выступленне тэатральнай групы з Падставовай школы ў Ягуштове, якая прыехала з вядомай ужо пастаноўкай „Хрысцінаў".**

Вучні з Ягуштова пазнаёмілі гайнаўян з абрадам хрысцінаў, які адбыўся ў пачатку XIX стагоддзя ў іх роднай вёсцы. Песні і прымаўкі, якія запісаны былі ў 1814 годзе шляхцічам Рохам Сікорскім з Бельска-Падляшскага, цікавае для гараджан абсталяванне тагачасных дамоў, уборы ды ігра юных акцёраў захапілі ліцэістаў, якія стоячы апладзіравалі гасцям. Відаць было, што ягуштоўскія вучні не першы раз на сцэне і ўмеюць весці сябе перад чужой публікай. Дастойна ўспамагаў сваіх выхаванцаў апякун тэатральнага гуртка Дарафей Фіёнік, які іграў ролю свяшчэнніка.

— Ягуштова — гэта найбольш тэатральная вёска. На чатырыста жыхароў, амаль сорак дзяцей з'яўляюцца ўдзельнікамі тэатральных сустрэч, хаця існуем толькі два гады, — напамінаў кіраўнік Дарафей Фіёнік. — Прэм'ера „Хрысцінаў" адбылася ў лютым, хаця не выступалі мы ўжо амаль паўгода, ад удзелу у Міжнародным дзіцячым фестывалі, што адбыўся ў Венгажве.

— Гэта наша другая большая сустрэча ў Клубе польска-беларускіх спраў „Граблі" пасля канікульнага перапынку, — гаворыць апякун Клуба, настаўнік гісторыі Яўген Янчук. — У кастрычніку распрацоўвалі мы ў Студзіводах матэрыял пра бежанства і этнаграфічныя запісы, сабраныя на Бельшчыне ў чэрвені падчас пабыўкі ў Грыневічах. Калі я прыйшоў працаваць у ліцэй, задумваліся мы над характарам працы Клуба, але вырашылі ўжо, што будзем прымаць актыўны ўдзел у жыцці беларусаў Беласточчыны. У блізкім супрацоўніцтве з Дарафеем Фіёнікам думаем рэалізаваць навуковую праграму. Маючы абмежаваны доступ да архіваў, хочам карыстаючыся анкетнай працай збіраць гістарычны матэрыял пра бежанства, II сусветную вайну, канец саракавых гадоў, а таксама рабіць этнаграфічныя запісы казак, песень, абрадаў. Думаем арганізаваць сустрэчы з цікавымі людзьмі, з якімі хочам размаўляць пра культуру, палітычнае жыццё ды беларускую меншасць. Першыя спатканні будуць з Лёнікам Тарасэвічам ды Алегам Латышонкам. Каб працягваць зборку гістарычнага і этнаграфічнага матэрыялу, якую вялі мы ў Войшках і ў Грыневічах, думаем паехаць зімою разам з Дарафеем Фіёнікам у Краснае Сяло. У жніўні хочам наладзіць летнік у Дубічах-Царкоўных або каля Семяноўкі і паехаць на археалагічныя раскопкі на Браслаўшчыне. Рыхтуемся таксама і да конкурсу арганізаванага Гістарычным асяродкам „Карта" — „Найбольшае здарэнне ў жыцці маёй грамадскасці", у час якога хочам выкарыстаць матэрыял пра бежанства, які збіралі мы ў час летнікаў.

**Аляксей Мароз**

# Юбілей 50-годдзя

26 лістапада 1998 года ў Гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных адбылася ўрачыстая сустрэча са шлюбнымі парамі, якія пражылі супольна пяцьдзесят гадоў. У гэтым годзе святкавалі восем пар.

Спатканне пачалося з марша Мендэльсона, падчас якога юбіляры ўрачыста ўваходзілі ў залу. Пасля настаяцелі прыходаў, што на тэрыторыі гміны Дубічы-Царкоўныя, айцы Славамір Аўксяцюк, Іосіф Вайцюк і Лявонцій Анхім адслужылі малебен. Запрошаныя пары цёпла прывітаў войт гміны Анатоль Паўлоўскі, звяртаючы ўвагу на цяжкія ўмовы жыцця ў першыя гады пасля шлюбу, пажадаў шчасця, здароўя і павелічэння пенсій у два разы. Разам з кіраўніком ЗАГСа Ольгай Рэпка войт уручыў юбілярам медалі, прысвоеныя ім прэзідэнтам РП, дыпломы і сувеніры.

Пасля выступалі наймалодшыя вучні Падставовай школы ў Дубічах-Царкоўных. Дзеткі з нулявога, першага, другога і трэцяга класаў, якіх рыхтавалі Галіна Більkевіч, Бажэна Маркевіч і Ніна Бачынская, дэкламавалі вершы, спявалі песні і танцавалі. Гледачам вельмі спадабалася песня „Шэрая мышка", якую з дапамогай III класа заспявала Магда Аўксяцюк. Усе выступленні былі цёпла прыняты публікай. На тварах юбіляраў відаць было ўзрушэнне ад успамінаў пра свае школьныя гады.

**(ам-з)**

# Свята чыгуначнікаў

21 лістапада г.г. у Чаромхаўскім ГОК арганізаваўся святочны вечар з нагоды свята чыгуначнікаў (адзначаецца яно 25 лістапада ў дзень нябеснай заступніцы Кацярыны).

Мерапрыемства мела раённы ранг, паколькі тычылася чыгуначных прадпрыемстваў Седльцаў, Чаромхі, Семяноўкі і Беластока.

Афіцыйную частку адкрыў і прысутных прывітаў старшыня прафсаюзнай арганізацыі „Салідарнасць" у Чаромсе Мікалай Чэркаскі. Пасля кароткага даклада заслужаным работнікам было ўручана 20 сярэбраных і 14 залатых значкоў „Перадавы чыгуначнік".

У мастацкай частцы выступіла кабарэ „Цях" з Зялёнай Гуры, мясцовы духавы аркестр і вясковая капэла „Сямёна" з Васількава. На танцавальнай вечарыне іграў музычны калектыў „Эльёт" з Чаромхі. Мерапрыемства ў гэтым годзе праводзілася без лішняй пампезнасці. Чыгуначнікі не атрымалі трынаццатай зарплаты, не было сяброўскіх сустрэч на ўлонні натуры, не было двухдзённай забавы (у суботу і нядзелю), як гэта бывала пры камуне. Толькі памяць і традыцыя засталіся работнікам, а начальству — багаты „банкет" (неафіцыйная частка, інакш кажучы).

**(ус)**

Успаміны з мінулай эпохі

# Выхаваўчыя сумненні

Добрае выхаванне — рэч дэфіцытная ў наш час. І погляд на яго ў мяне прайшоў поўны метамарфоз. Спачатку ў выхаваўчых справах я быў каса. На выхаваўчых уроках і „вывядуўках" як завядуся, бывала, дык канца і спыну мне не было — са ўсёй сваёй назойлівасцю і настырнасцю навучаў даверaны мне народ „что такое хорошо, а что такое плохо". Ніякіх няяснасцяў і хістанняў у гэтым прадмеце ў мяне не было. А потым такія няяснасці і хістанні пачалі паяўляцца — і штораз мацней я стаў сумнявацца ў сваіх выхаваўчых здольнасцях.

Повадам для сумненняў наконт маіх выхаваўчых здольнасцяў паслужыла мне празаічная прычына, а менавіта свае ўласныя дзеці. Іх у мяне толькі двое. Выхоўваў іх ад дня іх нараджэння і кругласутачна, а добрым выхаваннем іх пахваліцца не мог. Яны і не слухаліся мяне, і між сабой беспярапынныя ваенныя баталі вялі, і некалькі тэлевізараў заездзілі, і належнай пашанай да бацькоў і ўсялякіх іншых святасцяў не грашылі, і бацькоўскіх грошай зусім не шанавалі, і ў дзіцячых інцыдэнтах актыўна ўдзельнічалі, і многіх-многіх іншых недахопаў падатлівымі носьбітамі былі. З бацькоўскаю крыўдаю прызнаюся, што будучы маленькімі яшчэ, не раз адпускалі пад маім адрасам выражэнне: „тюрэнь далёваны". У перакладзе на дарослую мову: „дурань малёваны". Дзе слова „дурань" бадай паясненняў не патрабуе, а „малёваны" — гэта вышэйшая ступень яго.

А вось яшчэ прыклад. Аднойчы важна іду я па вуліцы нашага горада і дастойна нясу на руках цэнную ношу — маё роднае чада па імені Аня. І ёй добра, і мне някепска. У яе выдатны кругавы агляд: можа лёгка кантраляваць усё, што адбываецца спераду, па баках і ззаду, што яна і робіць. У мяне агляд крыху сціплейшы: магу бачыць толькі перад сабой, і таксама задаволены. За мною, чую гэта, гучна крочыць група вясёлай моладзі. Мая Анька адразу кіруе свой дзіцячы погляд на гэтую моладзь. І раптам нечакана кідаецца са смехам наперад, так што ледзь не вырвалася з маіх, тады яшчэ спрытных і моцных рук. Было ясна, што гэта справа моладзі, яны за маімі плячыма строяць нейкія фокусы, каб рассмяшыць яе. Я адварочваюся назад, каб паглядзець што яны робяць і, натуральна, прачытаць ім лекцыю аб правілах вулічнага руху і добрага тону. Але там усё нармальна і прыстойна, нават іранічнай усмешкі на тварах не бачу. І я пасую.

Праз нейкі час зноў усё паўтараецца. Я зноў адварочваюся і зноў ніякай злачыннай дзейнасці ў адносінах да сваёй бацькоўскай асобы з боку моладзі не знаходжу. Мяне гэта моцна пачынае гневаць. Проста аж прасілася правучыць грубіянаў, але без яўнага доказу іх віны лезці ў драку не выпадала. Непедагагічна гэта. Ну, пачакайце, мярзотнікі, я зараз жа правучу вас вашай жа зброяй! — рашыў я. І ціхенька прашу дачку:

— Анька, дай ім дулю. (Разумею, канешне, што гэта таксама не зусім педагагічна, але клін можна выбіць толькі клінам).

— Тюлю? — запытала яна.

— Так, тюлю, дзетка, — паўтарыў я.

І яна размашыстым сярповым рухам на вачах усёй публікі совае сваю „тюлю", але не віноўнікам інцыдэнту, а пад бацькоўскі прыгожы нос. Моладзь так і паехала ад смеху, а я, з палымяным жаданнем помсты, ганебна ўцёк з поля бою.

Надта ж нецікава для маёй бацькоўскай рэпутацыі ўпісаўся таксама і наймалодшы член маёй сям'і званы Лізаветай. Калі была яна вучаніцай пятага класа пачатковай школы, у нас якраз моднай і галоснай акцыяй стала барацьба з алкагалізмам. Каб яшчэ мацней атруціць жыццё бедным алкашам, адміністрацыйна падключылі да антыалкагольнай барацьбы і школы, як бы алкашам і школам было яшчэ замала ўласных клопатаў і нагрузак.

Панавыдумоўвалі розных антыалкагольных конкурсаў і іншых мерапрыемстваў, якімі няшчадна падрывалі яшчэ і аўтарытэт нашым таварышам алкаголікам. Хаця розных бед і згрызот хапала ім тады і без гэтага: хранічная нястача сродкаў на выпіўкі, хуткі і сістэматычны рост цэн на выпівачную прадукцыю, зніжэнне якасных стандартаў яе, малая колькасць магазінаў таргуючых спіртнымі напіткамі і абмежаваны час продажу іх, немагчымасць выпіўкі ў крэдыт, абыякавыя адносіны грамадства і нават сваіх сямейнікаў да іх і гэтак далей і таму падобнае. Адным словам — татальны садызм. І ўсё гэта пад патранатам улад і нават Царквы! І як бы ўсіх гэтых бедаў было яшчэ замала, пачалі нацкоўваць супраць іх падрастаючае пакаленне...

Так і ў доччынай школе. Пісалі конкурснае антыалкагольнае сачыненне і міні-п'еску на тую ж тэму. Праца пяцікласніцы Лізаветы Васільеўны была заўважана і высока ацэнена антыалкагольнымі школьнымі спецамі. Потым гэтая праца, у якой яна паказала сумнае становішча сям'і, а ў асноўным дзетак — іх проста пякельныя перажыванні і ўсялякія там жахлівыя мытарствы — з прычын таткавага алкагалізму, была запісана на магнітафонную стужку, і пушчана адным нашым фабрычным радыёвузлам для сваіх працаўнікоў. Фабрычныя людзі слухалі разявіўшы раты і спачувальна ківалі галовамі, ціха абменьваючыся між сабой навеянымі тэкстам рэфлексіямі тыпу: „Відаць, нялёгка жывецца гэтаму дзіцю са сваім бацькам" — „Я б расстрэльвала ўсіх такіх тыпаў, якія даводзяць сваіх дзетак да такога стану" — „Што ні кажыце, кума, такога не напішаш не перажыўшы самому. Чыё гэта дзіця будзе?.." Вось якой крыўдай поспех маёй дачкі абярнуўся мне.

Але чорт ужо з ёю, маёй крыўдай, калі пайшла яна на карысць добрай справе і школе. Карысць гэтая аказалася даволі важкай. Гэтым конкурсам яе школа заваявала першае месца ў нашым ваяводстве, атрымала мноства пахвал і статысячную грашовую ўзнагароду. Лізавета Васільеўна таксама была слоўна і сувенірна абласкана і, што найважнейшае, з ходу ўвайшла ў самую, так сказаць, школьную эліту суперзмагароў антыалкагольнага фронту. Гэтую знакамітую эліту складалі: дырэктар школы, школьны педагог і яшчэ некалькі настаўніц-святош. Але калі хто думае, што мая Элька сарамлівa сябе адчувала ў такой саноўнай кампаніі, дык моцна памыляецца. Нікольку.

Хутка пасля Лізавета-школьнага поспеху, двух прадстаўнікоў з іх школы, як адзіныя з усяго нашага ваяводства, былі запрошаны ў Гданьск на цэнтральныя ўрачыстасці антыалкагольнага мерапрыемства. У склад высокай дэлегацыі ўвайшлі: школьны педагог і Лізавета. Праўда, не абышлося ёй тут без закавыкі і дадатковых клопатаў. Справа ў тым, што перад выездам у Гданьск група вучняў з іх школы са сваімі выхавацелямі пабывалі на трохдзённым біваку ў Рыбаках. Гэта адна з прыгажэйшых мясцін адпачынку на нашай Гайнаўшчыне. Там, усыпіўшы чуйнасць сваіх настаўнікаў-выхавацеляў, пяці і шасцікласнікі нейкім чынам раздабывалі піўцо і дружна распівалі яго. Адным з актыўнейшых арганізатараў і выканаўцаў гэтага крамольнага мерапрыемства была — як аказалася пазней — выдатная школьная антыалкагольніца.

Бяда аднак у тым, што піўцо, сволач, апрача, канешне, сваіх бясспрэчных каштоўнасцяў, мае таксама некаторыя і недахопы — усыпіла чуйнасць выпівох, а дакладней, выстаўленага імі каравула, які з прычыны спажытага піва груба нарушыў правілы канспірацыі. За што, думаю, некаторыя юныя таварышы панеслі заслужаную кару перад калектывам.

І так, справа была раскрыта, але не адразу і не да канца. І толькі дзякуючы такой непаваротлівасці школьнай Феміды суровая рука справядлівасці не дасягла маёй Элькі, на яе, канешне, шчасце. Пачалася следчая валакіта, і пакуль школьны бюракратычны следчы апарат раскумекваў „хто?", „што?" і „дзякуючы каму?", мой здольны і падвыпіўшы школьнік успеў адбыць у Гданьск на падвядзенне вынікаў агульнапольскага антыалкагольнага мерапрыемства і, канешне ж, абмяняцца багатым вопытам барацьбы з гэтай заразай, алкагалізмам. Чаго ёй вельмі, вельмі хацелася, а і нам, бацькам, шкада было, каб за адну-другую бутэльку тады яшчэ малаякаснага камуністычнага піўца страціць такую паездку і славу заслужанага барацьбіта антыалкагольнага фронту.

З Гданьска Элька вярнулася праз тры дні і была вельмі задаволена. К таму часу і ў школе справа ўспела прыціхнуць, бо, як жа ж і судзіць пераможцаў?..

Падобных выхадак з боку маіх дамашніх выхаванцаў было нямала.

І вось аднойчы прыйшла ў маю галаву назойлівая думка наступнага зместу: „Дарагі прафесар сярэдняй школы, калі ты такую малую аўдыторыю выхаваць як трэба не ўмееш, выхоўваючы яе ад нараджэння і кругласутачна, дык якое ж ты маеш маральнае права так настырна павучаць другіх бацькоў і іх дзяцей?"

Гэтая думка свідравала мае мазгі і моцна раніла маё пачуццё ўласнай годнасці. І не ведаю чым бы ўсё гэта закончылася, калі б не прыйшла ў маю галаву геніяльная думка: „То ж я выхавaўца-тэарэтык, а не практык".

У той час была ў нас мода на вельмі вузкія спецыялізацыі і нават гэтыя два паняцці не былі моцна павязаны з сабою. Нікога не здзіўляла, напрыклад, што інжынер-будаўнік не ўмее ўбіць цвіка, спецыяліст ад шкоднасці курэння сам копціць як паравоз, а педыятры і ўсялякія сексуолагі, якія ўсё ведаюць аб працэсе тварэння і развіцця дзяцей, часта ўласных дзяцей стварыць не ўмеюць або твораць іх абы-як і абы-якіх.

Чым жа горшая педагогіка? Яна ж адна з самых старажытных навук...

**Васіль Сакоўскі**

# Пенсіянер таннейшы за злачынцу

Калі ў законную сілу ўступаў новы крымінальны кодэкс, усе сродкі масавай інфармацыі загаварылі пра ўмовы, у якіх адбываюць пакаранне злачынцы. Пры нагодзе выявілася, што ўтрыманне аднаго турэмшчыка каштуе 1200 злотых у месяц. Я, пачуўшы такое, аж за галаву схапіўся.

Ведаю пенсіянераў, якія атрымліваюць у месяц па 350 зл. і жывуць у двухпакаёвай кватэры плошчаю ў сорак квадратных метраў. Ім трэба заплаціць за кватэру, электраэнергію, газ і ваду ды прахарчавацца. І за адны 700 злотых неяк жывуць яны абое, не жабруюць, не чакаюць сацыяльнай дапамогі, хаця ледзь зводзяць канцы з канцамі. Таксама і я з жонкай жывем на мізэрную пенсію.

Не наракаю на лёс свой і тысячаў пенсіянераў, якія жывуць за рысай сацыяльнага мінімуму. Хачу аднак звярнуць увагу на празмерную шчодрасць дзяржаўнага бюджэту ў адносінах да турэмшчыкаў і турэмнай службы. Напрыклад, у папраўча-выхаваўчай калоніі ў Беластоку наглядчыкі карыстаюцца мясцовай сталовай і за гэта плацяць толькі дваццаць злотых у месяц. Выходзіць менш, чым залатоўка ў дзень за снеданне і абед або абед і вячэру. З нас, бедных і нямоглых пенсіянераў, таксама бяруць падаткі, каб здараўленым праваапарушальнікам і такім жа наглядчыкам стварыць камфартабельныя, хаця і за кратамі, умовы. Ці так быць павінна?

**Мікалай Лук'янюк**

# Сустрэча з епіскапам

У наш II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы 12 лістапада г.г. прыехаў каталіцкі епіскап Антоні Дыдыч.

А дванаццатай гадзіне, у класе, дзе адбываюцца ўрокі польскай мовы, мы сустрэліся з епіскапам Драгічынскім Антоніем Дыдычам. Епіскап прывітаўся з дырэктарам нашай школы, настаўнікамі і вучнямі. Ён сказаў, што наша школа — самая прыгожая ў Гайнаўцы і вельмі добра абсталявана. Епіскап пытаў нас адкуль, акрамя Гайнаўкі, паходзяць каталіцкія вучні ў нашым ліцэі. Ён таксама хваліў ксяндза Збігнева Нямыйскага, які навучае ў нас каталіцкай рэлігіі.

Потым голас узяў наш дырэктар, Яўген Сачко. Дырэктар паведаміў, што з кожным годам больш каталіцкай моладзі пачынае навуку ў нашым ліцэі. Каталіцкі епіскап уручыў дырэктару некалькі кніжак для школьнай бібліятэкі.

Ксёндз, які спадарожнічаў епіскапу, раздаваў нам фатаграфіі епіскапа Дыдыча з яго аўтографам. Сустрэча закончылася супольнай малітвай.

**Івона Гансяроўская, кл. І „б"**

# Садавод з Сямятыч



*Ян Корчак-Міхалеўскі з жонкай Яўгеніяй, 1911 г.*

Старажылы памятаюць Яна Корчака-Міхалеўскага: з сівай барадой, сінімі вачамі ды ветлівай усмешкай. Працаваў бібліятэкарам у Гарадской публічнай бібліятэцы. Пра ягоны жыццёвы шлях можна б скласці адысею. Быў патомкам польскага двараніна, паўстанца 1863 года, сасланага на палескія балоты. Маці — полька, Разалія з Банецкіх, рана аўдавела і насіла свайго сыночка на спіне ў рускую школу, бо не магла купіць яму чаравікаў. Дома вучыла яго польскай мове на варшаўскіх каталіцкіх малітоўніках, хаця бацька быў ужо праваслаўным, бо цар прыказаў, каб у змешаных шлюбных парах дзяцей хрысцілі ў праваслаўнай веры. Пасля маці выслала яго ў рускую настаўніцкую семінарыю ў раённую Свіслач (25 кіламетраў ад прыгранічнай Цісаўкі). Дзейнічала яна ў 1876-1915 гадах у будынку заснаванай у 1805 годзе вядомай і ў Польшчы гімназіі. Цяпер там размяшчаецца раённая бальніца.

Закончыў ён семінарыю як выдатнік і працаваў настаўнікам у Олтушы на поўдзень ад Брэста. Часам бываў дырыжорам маладзёжнага хору ў тамашняй царкве. У 1915 г. бежанства загнала яго аж над раку Волгу. Пасля паражэння бальшавіцкай арміі над Віслай вярнуўся зноў у Брэст. Закончыў там польскія настаўніцкія курсы і стаў дырэктарам школы ў пружанскіх Расохах (там нарадзіўся паэт Францішак Ляхоцкі), а пасля ў Слонімцах (2 км ад Пружаны) і крыху ў самім горадзе. Кожнае лета выязджаў на настаўніцкія курсы, перападрыхтоўкі, каб атрымаць дадатковую спецыялізацыю. Ягоны бацька, Адам, быў лесніком, значыцца, тады выбраў ён садаводства і гэтага занятку трымаўся ўсё жыццё. Калі толькі мог, пакідаў за сабою сад. У Вроцлаве, напрыклад, на месцы звалкі зрабіў агарод, за які атрымаў першую ўзнагароду. За настаўніцтва таксама ўручылі яму сярэбраны медаль з пурпурнай стужкай, з выявай галавы цара Мікалая II ды надпісам „За усердие" (г.зн. „за стараннасць"), а прафсаюз польскіх настаўнікаў (ZNP), прысвоіў яму залатую адзнаку з узыходзячым сонцам. Хаця навучаў рускай і польскай мовам, ведаў і беларускую, а мне пеказаў яе азы.

*Ярка на камінку*
*Смольны корч палае,*
*Бацька на прылаўку*
*Лапаць выплятае.*

*Гэй, Ігнат, глядзі, брат,*
*Не дурэй, вучыся,*
*Годзе жыць без дзела,*
*За буквар вазьміся!..*

Не абышлося і без таго, каб у 1941 годзе яго з сям'ёй не турнулі над раку Об, дзе як „ворага народа" на працу ў школе не пусцілі. Ягоная жонка Яўгенія — беластачанка, падлясянка. Радзілася ў Сідарцы ля Краснастока. Спавіла шасцёра дзетак і двое з іх — паэты (друкаваныя). Ян (1882-1983) і мая маці (1893-1987) разам з Разаліяй пахаваны ў Пружане. У Сямятычах над Бугам бацька прышчапіў шмат фруктовых дрэваў. Часам і сам прапанаваў гэтае.

Узнікае пытанне, чаму Ян Корчак-Міхалеўскі пражыў 100 многапакутных гадоў і да канца пісаў пісьмы каліграфічна і з сэнсам? У Свіслачы (1906) — перад самім выхадам — далі яму на памяць Новы Запавет, які праехаў з ім дзесяткі тысяч кіламетраў. Кожны вечар перад сном яго чытаў. Не піў, не курыў, зрэдку еў мяса. Пасціў у пятніцы. Ведаў на памяць шмат рэлігійных вершаў. Заўсёды на стале трымаў яблыка. І прарок Магамет напісаў, што як хто не пасадзіў аніводнага дрэва, то не пусцяць яго ў рай...

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Звычайны дзень

Устаў я з ложка. Сонца было ўжо высока. Я хуценька пабег на кухню паглядзець, ці не позна ў школу. Сёмая гадзіна? Я пачуў, як звоніць гадзіннік у вялікім пакоі. Старанна пералічыў: сапраўды, сем.

Холадна стала ў босыя ногі і я яшчэ раз „зашыўся" ў пасцель. Мігам дайшло да мяне, што нікога няма ў хаце.

Пэўна ў агародзе яны. Я выглянуў цераз акно, але і там нікога няма. Успомніў... усе мае малодшыя: Кася, Юстына і Славік у бабулькі асталіся.

Мамы і таты няма, хіба зноў у чужых працуюць, каб паесці і чарку гарэлкі ім далі. Вясною ў людзей работы многа.

Абрыдла ляжаць у пасцелі, пайду на кухню; можа паесці нешта ёсць. Халадзільнік выключылі, усярэдзіне нічагусенькі. На стале рэшткі ўчарашняй выпіўкі, пустыя кілішкі і... ані кавалачка хлеба. На талерцы, там дзе ўчора ляжала сала, таксама пуста.

Прыйдзецца зноў за „святым духам" у школу ісці. Пад сталом нават курынай костачкі няма, пэўна сабака з'еў. Вып'ю вады, можа есці не будзе так хацелася.

Нічога не памагае, толькі ў жываце страшэнна бурчаць пачало. Ужо і ў школу збірацца трэба. Там пасля трэцяга ўрока каву вып'ю і булачку з'ем.

Першы ўрок — польская мова. Настаўніца гаворыць, а мы пішам у сшытках. А есці так страшэнна хочацца! Можа нехта з „сяброў" не будзе на гэты раз смяяцца і дазволіць укусіць хаця раз свой бутэрброд!.. Дарма, ніхто нічога мне не дасць, а яшчэ больш будуць высмейваць. Але настаўніца добрая, яна ніколі на мяне не крычыць, можа яе папрасіць, каб дала паесці?.. Але як да яе звярнуцца, як папрасіць?

— Алік, скажы, дзе ў гэтым сказе выступаюць назоўнікі?

Гэта да мяне, нешта трэба сказаць, але якое было пытанне? Есці так хочацца.

— Пра што ты думаеш?

— Жывот баліць.

Смяюцца, усе смяюцца, настаўніца глядзіць на мяне з дакорам.

— Я цябе пра назоўнікі пытаю, а не хваробы.

— Не ведаю! — злосна адказваю.

— Чаго не ведаеш?

— Нічога не ведаю, — шапчу ціхенька і нечакана слёзы пачынаюць капаць на раскрыты сшытак. Не магу іх стрымаць, а ўсе глядзяць на мяне. Як сорамна, ненавіджу сябе ў гэтую хвіліну.

— Не разумею цябе, сядай. Янэк, ты адкажы.

Гэты ўрок і яшчэ будзе два... а есці так хочацца!

— На гэтым канчаем урок польскай мовы. У хаце прачытайце апавяданне ў падручніку на 83 старонцы. Можаце выходзіць на перапынак. А ты, Алік, хадзі сюды, — сказала настаўніца. — Што з тваім жыватом, можа ў школьнай аптэчцы я табе кропель пашукаю?

— Не.

— Чаму, ужо жывот не баліць?

— Баліць!

— Ты можа не снедаў?

— ...

— Чаму маўчыш?

— Не еў сёння нічога.

— Хадзем разам, я ў настаўніцкім пакоі бутэрброд пакінула. Пачакаеш хвілінку, і я табе яго вынясу, добра?

— Добра, але каб ніхто...

— Вядома, я скажу, што цябе ў краму пасылаю. Калі скончыш есці, прыйдзеш у клас і аддасі мне сумку.

**Вясковая настаўніца**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 29**

Напэўна чытачы ўжо ведаюць аб тым, што ў перыяд існавання „Нашай нівы" сталіцай нашага краю быў не Беласток, а Гародня. І таму так часта розныя падзеі, якія адбываліся ў нашых вёсках мелі свой фінал у Гародні, якая была губернскім горадам. Таму час ад часу, гаворачы аб розных здарэннях ва ўсходняй Беласточчыне, спалучаў я іх з падзеямі ў самай Гародні, якая не належала да ўсходнебеласточчкага краю. На гэты раз прагну прывесці інфармацыю аб Гародні, змешчаную ў 13 нумары „Нашай нівы" за 1910 год. Раблю гэта таму, што інфармацыя гэта была сугучнай з тымі палітычнымі працэсамі, якія адбываліся ў некаторых ўсходнебеластоцкіх вёсках, асабліва ў вёсцы Кленікі.

„Г. Гродна. Горад гэты беларускі, але дагэтуль аб беларусах нешто мала было чутна і толькі цяпер пачалі яны тут будзіцца. З пачатку, праўда, ішло туга, але пасля штораз болей і болей пачалі яны цікавіцца беларускім адраджэннем і вось цяпер маем ужо не мала беларусаў, каторыя душой і сэрцам прыналежаць да сваёй бацькаўшчыны. Няўдана яны справілі тут беларускую вечарыну, каторая вельмі добра ўдалася. Найболей нас цешыць тое, што і нашы браты-славяне: расейцы і палякі спагадаюць нам тутака, а найбольш то цешаць літвіны, што беларускі народ, каторага сілы яшчэ не выкарыстаны, а нават і не пачынены, — прачнуўся.

Паўлюк"

Як жа розны настрой гэтай публікацыі ад той, якую я прывёў у папярэднім адрэзку з Карыцціна! Там адно бязвер'е, песімізм і нараканне, тут — дамінуе аптымізм і вера ў беларускае адраджэнне. Можа ўзнікнуць пытанне, хто меў рацыю — аўтар з Карыцціна, ці аўтар з Гародні? Несумненна, ёсць рацыя на баку аднаго і другога публіцыста. Беларуская рэчаіснасць у часы „Нашай нівы", дарэчы, як і сёння — разнаколерная. Не мала было і ёсць у ёй пазітыўнага і песімістычнага. І таму кожны аўтар мае права канцэнтравацца на тым, што яго ў дадзены момант найбольш цікавіць і хвалюе. Аднак, незалежна ад сітуацыі, публіцыст мае абавязак пісаць праўду, а не ману. Здаецца мне, што аўтары „Нашай нівы" адзначаліся вялікай сумленнасцю а прытым і нацыянальным гонарам. Якраз таму ў іх публікацыях так многа горкага і крыху салодкага. Бо няма сумненняў, што ў беларускім нацыянальным жыцці на працягу цэлых стагоддзяў злога было болей чым добрага. На жаль, гэтая перавага адмоўнага над пазітыўным у беларускім нацыянальным мысленні і бытаванні выступала як у мінулым, так выступае і ў сённяшнім. Беларуская рэчаіснасць пад кіраўніцтвам Лукашэнкі штодзённа дастаўляе нам новыя і новыя факты, якія пацвярджаюць гэтую горкую праўду.

Ці ж не з'яўляецца вялікім парадоксам і недарэчнасцю тое, што сёння, на шостым годзе існавання незалежнай беларускай дзяржавы, праўдападобна найбольш аб'ектыўны публіцыст з Гародні не быў бы ў стане прывесці жменю фактаў, якія б сведчылі аб добрай кандыцыі беларускасці ў гэтым горадзе і гаварылі б аб правах беларускага нацыянальнага адраджэння ў ім?! Затое мог бы ён расказаць аб сотнях падзей і здарэнняў, якія сведчаць аб шпаркім працэсе русіфікацыі ў Гародні. На жаль, у працэсе гэтым бяруць самы актыўны ўдзел чыноўнікі і дзеячы, якім „незалежная" дзяржава плаціць немалы грошы. Падумайма толькі: Беларусь плаціць грошы тым, хто нішчыць яе суверэннасць і незалежнасць. Такое магчыма толькі ў Беларусі. А чаму яно так дзеецца? А таму, што мы пакуль што не народ, але народзец, які кожны чужынец можа выкарыстаць згодна з сваім нацыянальным інтарэсам, а не інтарэсам Беларусі.

**Алесь Барскі**

# Хвароба сігае з экрана!

Ваша дзіця перад атакай „экраннай падучкі” будзе сумнае, тупа будзе ўзірацца ў манітор, не будзе адказваць на запытанні. Трэба тады хутка — у 5-6 секунд — выключыць тэлевізар ці манітор камп’ютэра. Звярні тады ўвагу дзіцяці на іншы прадмет ці на сябе. Гавары да яго, казычы, спявай, а калі гэта не паможа, прыкладзі да ягонага твару халодную прымочку. Абавязкова падайся з хворым дзіцём да лекара.

Пакуль што, пагражае нам усім

**экранная эпілепсія.**

Можа, вочы нашых праўнукаў прывыкнуць да бліскаў тэлевізараў, камп’ютэраў, светлавых рэклам. А гэту хваробу **выклікае святло** пульсуючае, хутказменнае, якое прыспешвае рытм мазгавых хваляў, прыдаючы ім таксама тую шалёную хуткасць. Хворы не можа іх кантраляваць, пачынае траціць кантакт з рэальнасцю, сутаргава дрыжыць. Калі атака падучкі мінае, ахоплівае яго страшны ляк.

Кожны соты грамадзянін Польшчы пакутуе ад экраннай падучкі. Гэтае захворванне найбольш

**пагражае дзецям**

ад шасці да дванаццаці гадоў. Іх мозг яшчэ няспелы і больш падатлівы на шкодныя стымулы. Больш за дзесяць гадзін у дзень перад экранам камп’ютэра ці тэлевізара для дзіцяці — доза забойчая! Падучка ёсць абаронай сістэмы ад празмернай колькасці стымулаў. Можна гэтага пазбегчы — хопіць выключыць манітор ці тэлевізар.

У час атакі экраннай эпілепсіі ў мозгу можа дайсці да мікрапашкоджанняў. Нельга прыпадкі падучкі трактаваць абыякава, нават калі яны перастануць паяўляцца (калі дзіця пачне даспяваць). Тады проста паменшваецца ўражлівасць на фотастымуляцыю. Аднак хвароба можа вярнуцца ў іншай постаці.

Рана здыягназаваную экранную падучку можна паспяхова вылечыць у 70-90% дзяцей. Аб схільнасці да хваробы інфармуе запіс працы мозга (EEG), які пагоршваецца, калі дзіця бачыць бліскі рознай частотнасці.

Не мусіш

**выкідаць камп’ютэр**

ці тэлевізар з хаты! Трэба дома „спісаць” прынцыпы карыстання гэтымі прадметамі. Дзіця можа займацца пры іх не больш дзвюх гадзін. Адлегласць ад экрана тэлевізара не можа быць бліжэйшай за 2 метры. Манітор камп’ютэра павінен быць чорна-белы. Каляровыя хуткія мультфільмы пераплятаць трэба спакойнымі фільмамі, напрыклад аб прыродзе. А найлепш — навучыцца больш размаўляць з дзецьмі, не перадаваць увесь выхаваўчы і навучальны працэс бяздушнай тэхніцы!

**Лукаш БАРАВІЦКІ**

## Аб’ява

**Цэнтр культуры ў Харошчы, тэатр „Obok”, аб’яўляе набор-падбор усіх ахвотных займацца ў тэатральным калектыве. Сардэчна запрашаем. Кантакт-інфармацыя: тэл. 7445245 у гадз. 8-20. Колькасць месц — неабмежаваная. Тэрмін — кароткі, да канца гэтага года!**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Даражэнькі Астроне! Прысніўся мне даволі арыгінальны сон, і я вырашыла напісаць табе, мо ты яго зможаш мне неяк раз’ясніць. Сон быў больш пра маю дачку, і я з гэтай прычыны вельмі непакоюся, бо ў яе цяпер і так шмат клопатаў.

Вось сніцца мне, што пад’ехалі мы да нейкага блёка. Не ведаю, што гэта за машына, але ведаю, што не таксі. У машыне ёсць шафёр, гэта быццам бы нейкая службовая машына. Пасажыры — гэта мы з дачкою і маёй калішняй сяброўкай, якая ўжо памерла. Быццам бы вязем мы на нейкія выступленні дзяцей, але я не ўпэўнена, хто там быў канкрэтна, ці мая ўнучка, ці яшчэ дачка, калі была малая, і дочкі маёй сяброўкі.

Дачка сказала, што мусіць узяць яшчэ нешта з хаты, і таму мы пад’ехалі да блёка, у якім яна жыве. Блёк вялізны, у вялікім горадзе. Уваходзім у пад’езд. Тут вялікі хол, у якім ёсць некалькі ліфтаў. Мы падыходзім да ліфта, які знаходзіцца прама пад кватэрай дачкі. Дзяцей не відаць, пэўна, яны засталіся ў самаходзе. Толькі мы ўтраіх (дачка, мая сяброўка-нябожчыца і я). Дачка хоча выклікаць ліфт, але нешта ў яе не выходзіць. Яна пачынае трэсці дзверы ліфта, націскае на адну кнопку, другую, трэцюю... Ліфт не прыязджае, выглядае, што ён зусім не дзейнічае. Дачка нервуецца: жыве высока, як жа мы дойдзем да яе кватэры?

Мая сяброўка-нябожчыца пайшла ўжо да наступнага ліфта, але і там ёй не ўдаецца прывесці ліфт у дзеянне. Яна злуецца, а мая дачка ўсё яшчэ тузаецца з тым першым ліфтам.

Я не бяру ўдзелу ў іх сізіфавай працы, я — як бы звонку гляджу на ўсё, што дзеецца. Раптам не вытрымліваю і падыходжу да ліфта, з якім змагаецца мая дачка. Гляджу: дзверы не зачынены шчыльна. Тады я адчыняю іх і захлопваю моцна. Націскаю на кнопку, і ўжо ліфт едзе да нас. Зможам мы, такім чынам, паехаць наверх. Больш нічога не памятаю.

**Яніна**

Яніна! Сапраўды, сон адлюстроўвае рэчаіснасць. Калі ты гаворыш, што твая дачка мае клопаты, дык сон толькі пацвярджае гэту ісціну. Сама ж бачыш, як мусіла яна мацавацца з тым няшчасным ліфтам, каб неяк паехаць наверх.

Думаю, аднак, што ў яе якраз нешта зменіцца на лепшае. Па-першае, твая сяброўка ў гэтым выпадку абазначае для вас усіх спакой і поспех. Па-другое, відаць, не абыдзецца без тваёй дапамогі ў яе імкненнях да нейкай мэты, гэта ж менавіта ты ўсё ж такі дапамагла дачцэ прывесці ліфт у дзеянне, дзякуючы чаму вы ўсе змаглі паехаць наверх.

**Астрон**

# Зарабіла на свой „помнік”

Чытаючы праўдзівы артыкул Ады Чачугі п.з. „Помнік” („Ніва” н-р 35) я сумна падумаў: багаты і скупы чалавек нават перад смерцю не можа прымірыцца з тым фактам, што памрэ і яго багацце або моль з’есць, або нехта пакарыстаецца яго фартунай і заміж паставіць помнік назаве дурнем.

Так менавіта сталася са старою, бяздзетнаю ўдавою, якая, свядомая сваёй смерці, паволі памірала. Смяялася з людзей, якія выдавалі грошы на патрэбныя ім выдаткі, а сама капіла іх і капіла, каб перад смерцю аддаць такім жа, як і сама, багацеям, думаючы, што яны ёй багаты помнік паставяць. А яны паставілі што? Нічога! Таксама і залатыя ювелірныя вырабы скупая ўдава перадала Касцёлу — каб хутчэй завандраваць на самое неба. А я думаю, што яна найхутчэй папала ў пекла, бо каштоўнасці перадала ксяндзам, заміж перадаць іх бедным, сіротам і пакрыўджаным.

**Мікалай Панфілюк**

# Кніжная вітрына

У нашай рэдакцыі можна набыць наступныя выданні Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук:

*Беларуская думка XX стагоддзя. Філасофія, рэлігія, культура (Анталогія)*, Варшава 1998, цана 37 зл.

*Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. Tom V. Leksyka 1*, Warszawa 1995, cena 20 zł.

*Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. Tom VI. Leksyka 2*, Warszawa 1996, cena 20 zł.

*Kresy — pojęcie i rzeczywistość. Zbiór studiów pod redakcją Kwiryny Handke*, Warszawa 1997, cena 20 zł.

*Historia i współczesność języka polskiego na Kresach wschodnich. Pod redakcją Irydy Grek-Pabisowej*, Warszawa 1997, cena 25 zł.

Irena Maryniakowa, Iryda Grek-Pabisowa, Anna Zielińska, *Polskie teksty gwarowe z obszaru dawnych Kresów północno-wschodnich*, Warszawa 1996, cena 10 zł.

Вышэйпералічаныя кнігі можна таксама заказаць па пошце (za zaliczeniem pocztowym).

У нас можна таксама набыць аўдыёкасету „Бараболі” гурту „Грамада” з адзінаццаццю беларускімі народнымі песнямі ў апрацоўцы Генадзя Шэмета. Касета каштуе 8 зл.

# Юбілей юных танцораў

У Гайнаўскім доме культуры адбыўся юбілейны канцэрт маладзёжнага калектыву песні і танца ГДК, які сёлета святкуе пяцігоддзе сваёй дзейнасці. Юныя артысты выступілі на сцэне ў прыгожых касцюмах. Кіруе калектывам Анна Баран, інструктарша танца ў ГДК.

Маладзёжны ансамбль выступаў шмат разоў у Бельску-Падляшскім і ў Гайнаўцы ды ў Нараўцы, а таксама ў Свіслачы (Рэспубліка Беларусь) і ў Ванэрсборгу (Швецыя).

Членаў калектыву і яго кіраўнічку віншавалі дырэктар ГДК Мікалай Бушко, намеснік гайнаўскага бурмістра Міраслаў Мордань і беларускі песенны калектыў ГДК. Была спецыяльная тэлеграма з найлепшымі зычаннямі ад Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку.

**(гай)**

# Спаборніцтва шарадзістаў

21 лістапада 1998 г. у Беластоку адбылося спаборніцтва складальнікаў шарад паўночна-ўсходняга рэгіёна. Арганізатарам штогадовага мерапрыемства выступіў Клуб шарадзістаў „Арара”, які ўзначальвае Яўген Яцэль.

У гэтым годзе змагаліся 32 асобы. Чаромху прадстаўлялі Юрка Сціхура, Аляксандр Верамчук і Юрка Заборскі. Пераможцам аказаўся Славамір Кошэлеў з Беластока, які набраў 47 ачкоў (на 56) і ва ўзнагароду атрымаў фотаапарат.

З чарамшукоў найлепшым быў Юрка Сціхура, які апынуўся на чацвёртым месцы.

Спонсарам спаборніцтва выступіла прадпрыемства „Родэкс” з Беластока.

**(ус)**

# Дабіць вёску!

Амаль 40 гадоў хадзіў аўтобус ПКС з Беластока ў Масева і раніцай кожнага дня вяртаўся з Масева ў Беласток. У жніўні гэтага года дырэкцыя ПКС вырашыла ездзіць у Масева толькі два разы ў тыдзень, а ў лістападзе зусім ліквідавала курс у Масева.

Аўтобус цяпер даходзіць толькі да Нараўкі. Такім чынам жыхары Масева, Альхоўкі і іншых навакольных вёсак, каб рана заехаць у горад вымушаны на свой спосаб дабірацца ў Нараўку. Асабліва цяжка стала моладзі, якая вучыцца ў горадзе.

З Масева ў Нараўку добрых 12 кіламетраў, з Альхоўкі — 6 км, але чыноўнікі ПКС гэтага не разумеюць. Яны маюць сваю эканамічную рацыю, уводзяць рэформу, за якую плаціць вёска. Рыначная эканоміка не лічыцца з людзьмі. Вось дык рэформы!

**(міква)**

# Патрэбны малочны бар

У гайнаўскіх барах не пачастуешся ні малочным супам, ні шклянкай гарачага малака ці какавы. Сем-восем гадоў назад можна было тое купіць. Цяпер не.

А як вядома, малака ў нас удоваль. Малачарні маюць клопат з продажам сваіх прадуктаў. Малако павінна займаць важнае месца ў штодзённым харчаванні. Дык чаму ж не відаць у Гайнаўцы ніводнага малочнага бара?

**(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Міравіч.
**Адрас:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп’ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка

У кіпцюрах цецерука

## Алейная фарба

З суседам мы заўжды былі ў добрых адносінах. Праўда, здаралася між намі час ад часу разыходжанне ў поглядах, аднак такая адрознасць узбагачае культуру і яшчэ мацней зацiскае пятлю дружбы. Як жылі нашы продкі — гаварыць няма патрэбы. Яны ж ужо ў гісторыі, а гісторыю трэба вывучаць нават засранцам у пачатковай школе. Раскажу тады пра сябе, каб праз сто, дзвесце або трыста гадоў ніхто не перайначыў біяграфію майму пакаленню.

Здарылася, пярэчыць не буду, гадоў назад шэсцьдзесят, адправіў я суседа ў далёкую экскурсію. Нідзе чалавек не быў, як пасадзілі так адно і сядзеў у панскім лесе, шчыра той лес пільнаваў, а цяпер вось трапляецца нагода паехаць за невялікі кошт, паглядзець снег у ліпені. Хай едзе, — падумаў я. І сусед паехаў. Ноччу выбраўся, ноччу праз гадоў пяць і вярнуўся. І першыя крокі накіраваў на мой панадворак.

— Падымайся, — застукаў у акно. — Госці прыехалі.

Цёмныя бываюць кастрычніцкія ночы. Да таго цёмныя, што, бывае, клындамі ў нагавіцы не пацэліш. Аднак жа сусед, як чалавек ужо ў свеце бывалы, падумаў і пра гэта: пакуль застукаў у акно, раней, з дапамогай маёй стадолы асвятліў увесь панадворак. Восень была якраз, паспеў я звезці ўраджай, дык і вогнішча атрымалася пекнае, на ўсе фаеркі. Святла — хоць ты адбаўляй.

Кожны, каму пашанцавала стаць гарцэрам або паляўнічым, добра ведае, што пры вогнішчы, над міскай бігасу, над печанай каўбаскай завязваюцца самыя моцныя вузлы мужчынскага сяброўства. Бігасу — можна здагадацца — зварыць я не паспеў, каўбаса таксама ж атрымалася, аднак пры добрай кампаніі, як каталізатар сяброўства, паспяхова спраўляецца нават свойская бульбіна. Гэтая вось бульба і стала прычынай невялікага разыходжання ў поглядах, якое час ад часу здараецца між намі. Сусед прапанаваў адразу кінуць яе ў вогнішча, я быў за тым, каб крыху пачакаць. Рацыя — аказваецца — была мая: бульбіна, якая трапіла ў агонь раней, змарнавалася, ператварылася ў чорны попел. Але ўсё гэта — глупства. Не парве спапялелая гароднiна, навалач амерыканская, нашу выпрабаваную дружбу!

І не парвала. Зажылі мы згодна і доўга. Кланяліся сабе, здароўкаліся, нават плот, які дзесяцігоддзямі раздзяляў нашы панадворкі, не справіўся са сваёю анахроннаю функцыяй, зваліўся ў траву. Бы тыя граніцы між заходнімі краінамі, так і наша мяжа набрала ўсяго ўмоўнае значэнне. Тым часам на ўсходзе працэс пайшоў якраз у адваротным напрамку. І вось мы, як людзі ўсходу, захапіліся гэтай жа ўсходняй абраднасцю. Зусім лішне, гэты факт можна ацэньваць адно з перспектывы часу.

Плот атрымаўся прыгожы. Штыкецiны былі мае, жэрдкі даў сусед, а дубовыя стаўбы супольнымі сіламі, ноччу, расстараліся ў казённым лесе. Словам — цуда. І грэхам было б такое цуда не пафарбаваць. Для прыгажосці, ды і для трываласці. Для патомных.

І тут пачалася калатнеча. Я настойваў на колер цёмна-сіні, сусед гатоў жыццё аддаць за блакіт. Нічым аказаліся і экскурсіі, і супольныя вогнішчы, усё было без значэння: сіні або ніякі другі!

І калі выявілася, што ні войт, ні прэзідэнт не ў змозе вырашыць гэту каларытную праблему, давялося падумаць пра эміграцыю. Аднак ехаць абы ехаць, выпраўляцца абы-куды, мне не хацелася. Парыж. Нью-Йорк. Токіо. Каір. Рыо-дэ-Жанейра. Такія назвы таўкліся ў маёй галаве.

Пакуль што, аднак, ганарар належны за вышэйпамянёны ўрок гісторыі прашу даслаць на адрас:

**пошта Стэпкі, хутар пад Скіндзюковым лесам (нумар дома — непатрэбны — пісьманосец і так ведае), Міхасю Андрасюку**

## Кароткі курс параноі

**Ці хочуць пацукі вайны?**

Паркінсон даказаў, кабінетныя пацукі размнажаюцца самазараджэннем. Цуркам выкідае іх чорная адтуліна неарганічнай матэрыі. Упадуць на чатыры лапкі і тут жа нараджаюць сабе падобных.

— Як мой урад! — жахнуўся наш прэм'ер, зглыбіўшы тэорыю вучонага і даў указанні шэфу кабінета рыхтавацца да вайны з пародзістымі пацукамі. Мэта — кастрацыя мышападобных. Тактыка — маланкавае скарачэнне юрлівых хвастоў.

— Першы агонь выклікаю на сябе! — заявіў драматычна.

Даручана — выконвай. Валендзяк склаў план бою з кацылярыі гаспадара (644 пацукі!). З Міністэрскіх чыноў стварыў корпус хуткага рэагавання АББ (адбюракрацім бюракратыю бюракратамі) і запрасіў штаб корпуса на рэпетыцыю.

Уключылі запраграмаваныя камп'ютэры, сыплюцца адсечаныя хвасты і тут жа сігаюць на новых уласнікаў. Пайшлі мутанты з двума, а то і трыма хвастамі, залежна ад рангу носьбітаў азадкавых канечнасцей. Штабісты напружылі мазгавыя звіліны, загадалі камп'ютэру правесці матэматычную аперацыю аналізу і сінтэзу — выскачыў шыфр:

*644 + 26 = EUROPA*

Клічуць дэшыфранта. Той тлумачыць:

— Каб канцылярыя прэм'ера працавала па-еўрапейску, патрабуецца 26 новых пацукоў.

— Капцы нам! — з горыччу канстатуе міністр унутраных спраў. — Тэрміны, тэрміны. Гаспадар хоча падпісаць мір 1 красавіка 1999 года, да ўступлення ў *NATO*.

— Толькі без панікі! — супакойвае генерал Глудзь, адказны за сувязь з часапрасторай. — Сёння кантачыў з вялікімі стратэгамі. Цікава адрэагаваў Мао. Высылае факс Бузку: „Не перараймай мяне. Мая вайна з вераб'ямі закончылася фіяскам — насякомыя з'елі ўраджай. Глядзі, каб цябе не з'елі пацукі".

— Вось дылема! — цяжка ўздыхнуў шэф кабінета.

— Пацукі — не вераб'і, — рэзюмаваў міністр абароны.

Канчатковае рашэнне прыме „Дучэ", які загарае ў Аўстраліі.

**Сідар Макацёр**

Даведка: кабінетны пацук — млекакормячы асобень сямейства мышападобных. З доўгім хвастом. Водзіцца ў кабінетах. Незнішчальны.

Фрашкі пра нашых

## Лірычнае

Ты — цаца.
І я — цаца.
Будзем усміхацца,
За чубы не брацца.
Будзем хваліцца,
Будзем любіцца,
Ў друку не біцца,
Цацы ўсе быццам.
А хто не з намі —
У бок віламі,
Ў вочы — рагамі,
Ў спіну — граблямі,
Ў задок — пяром!!!
Хай йдзе на злом!
А скажа прышласць,
Што з таго выйшла.

**Вандал Арлянскі**



*Мал. Алега Карповіча*

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. драпежнае млекакормячае, якое харчуецца мярцвячынай, 4. паніка, 6. урачысты агляд войск, 7. дзіця жаночага полу, 9. крок, 11. левы прыток Волгі, 12. настаяцельніца жаночага каталіцкага манастыра, 13. у яго грахі не пускаюць, 15. горы ў Азіі, 17. „Госць на ... — гаспадыня за пірог", 18. камуністычны інтэрнацыянал, 19. насціл.

**Вертыкальна:** 1. грашовая адзінка Гандураса, 2. напр. Беласток, 3. размер заработнай платы, 4. хворы на параліч, 5. Арам, кампазітар „Танца з шаблямі" (1903—78), 6. тонкая перапонка ў жывёльным або раслінным арганізме, 8. сфера дзейнасці, 9. частка прасторы абмежаваная сферай, 10. Людавіт, харвацкі моваед і адраджэнскі дзеяч (1809—72), 14. рака ў Паўднёвай Амерыцы, 16. яго сталіцаю Сана, 17. металічны прут. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 44 нумара**

**Гарызантальна:** тлушч, Велізарый, аблік, палка, кіі, Брысбен, Схаўтэн, рак, Чопіч, мятла, „Дэкамерон", акіян.

**Вертыкальна:** „Судзукі", тальк, чэрап, веласіпед, Йелаўстан, абруч, „Атэла", КНР, іск, атамнік, чукча, Мірон.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Якая розніца між запалкамі і жаночымі грудзьмі?

— Запалкі прызначаны для дарослых, а забаўляюцца імі дзеці, а з жаночымі грудзьмі наадварот.

* * *

— Чым для жанчыны з'яўляецца парнаграфічны фільм?

— Гэта дзесяць хвілін сексу і пяцьдзесяць хвілін дакораў сумлення.

* * *

— Купіў сёння кітайскую рубашку, нямецкую машынку для брыцця і італьянскія макароны. З польскіх вырабаў маю толькі пусты кашалёк.

* * *

Журналіст пытае стогадовага мужчыну, што ён робіць, каб так доўга жыць.

— Увесь час прымаю два лекі, толькі не ўдалося мне яшчэ ўстанавіць, які з іх так выдатна дзейнічае.

* * *

— Чаму так прыглядаецеся ў ваду?

— Бо ўпалі мне ў Віслу акуляры.

— Гэта ж не Вісла, толькі Одра.

— Магчыма: без акуляраў цяжка адрозніць.

* * *

Дырэктар прымае новага працаўніка:

— У нашым бюро, малады чалавеча, працуем ад восьмай!..

— А ў якія дні, пан дырэктар?

* * *

— Татачка! Калі вырасту, буду сумленным прадаўцом.

— Гэты намер заслугоўвае пахвалы: будзеш мець невялікую канкурэнцыю.

* * *

Сын вярнуўся са школы.

— Татка! Настаўніца гаварыла нам сёння пра ўрад, партыю... Я нічога з гэтага не разумею. Ці можаш мне выясніць?

— Я табе, сынок, пакажу гэта на прыкладзе нашай сям'і. Сейм — гэта заканадаўчая ўлада: дома гэта я. Даю загады і мама іх выконвае — гэта выканаўчая ўлада; як урад.

— Ну, а партыя?

— З партыяй ёсць так, як з нашай бабуляю: недабачыць, недачуе, а да ўсяго чапляецца.